ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 43 (1577) | Пятніца, 2 чэрвеня 1961 года | Цана 4 кап.

# У ГЭТЫМ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ЎВЕСЬ СВЕТ

## З надзеяй у сэрцах

Мы, савецкія людзі, звыклі ўжо да таго, што кожная паездка кіраўніка нашага ўрада Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, ці па нашай краіне, ці тым больш за мяжу — гэта пачатак нейкага новага этапу, гэта новыя светлыя надзеі на будучыню... Нядаўнія паездкі таварыша Хрушчова па рэспубліках, краях і абласцях, нарады перадавікоў сельскай гаспадаркі, — хіба мала яны ўсялілі надзей у сэрца кожнага чалавека на тое, што год ад году наша сельская гаспадарка будзе набірацца яшчэ большае сілы і ў ёй адбудзецца такі, ўздым, які дасць магчымасць удосталь забяспечыць краіну прадуктамі. Мы, савецкія людзі, у гэта верым, і гэта будзе...

Асаблівыя надзеі наш народ, ды і не толькі наш — сумленныя людзі ўсяго свету — ускладаюць на паездкі кіраўніка Савецкага ўрада за мяжу. Кожная такая паездка растапляе, як вясновае сонца, халодныя крыгі вайны. І няхай сабе яны яшчэ канчаткова не растануць, але калі нават краечак у іх падтане, і то добра: значыць, надалей лягчэй будзе іх зусім расплавіць. Гэта мы ведаем на многіх прыкладах. Кожнае падарожжа чалавека, з імем якога людзі ўсёй нашай планеты звязваюць свае спадзяванні на мір, зараняе ў сэрцы людзей іскру радасці; бо няма большай радасці для чалавецтва, чым мір, чым жаданая цішыня на зямлі. Няхай гэта цішыня нашага неба парушаецца толькі такімі палётамі, як першага ў свеце касманаўта Гагарына, як яго паслядоўніка амерыканца Шэпарда. Няхай людзі ўзіраюцца і ўслухоўваюцца ў блакіт нябёс, сочачы толькі за такімі палётамі.

У гэтыя дні насельнікі нашай планеты з сардэчным натхненнем вітаюць сустрэчу двух кіраўнікоў самых вялікіх і самых магутных дзяржаў свету — СССР і ЗША. Ужо колькі год людзі свету чакалі гэтай абнадзейваючай сустрэчы. І, нарэшце, яна пачнецца заўтра. У сталіцы нейтральнай Аўстрыі, у старажытнай Вене сядуць за адзін стол Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў і Джон Кенедзі — прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі. Перад гэтым пасланец краіны сацыялізма, наш дарагі Мікіта Сяргеевіч пабываў на цудоўнай Украіне, наведаў братнюю Залатую Прагу ў яе вясновым квітненні. Мы ведаем, што кіраўнік урада СССР паехаў з добрым вясновым настроем, што, нарэшце, настане вясна надзей і ў адносінах паміж двума светамі — сацыялістычным і капіталістычным. І няхай яна яшчэ пакуль не растопіць тых крыг і таросаў, якія нагрувасціліся за гады «халоднай вайны», але сонца яе ўсё ж прымусіць іх раставаць. А калі яны пачнуць раставаць, значыць, яны калі-небудзь і канчаткова растануць.

Заўтра і паслязаўтра — гэтыя дні, мы спадзяёмся, будуць пачаткам вялікай адлігі, пачаткам нашых спадзяванняў на вечны і трывалы мір. А калі гэта так станецца, гэта будзе вялікім пачаткам, якому ўзрадуецца чалавецтва.

**Раман САБАЛЕНКА.**

## САМАЯ НАДЗЁННАЯ ПРАБЛЕМА

Усё прагрэсіўнае чалавецтва нашай планеты хвалюе цяпер адна галоўная жыццёвая праблема: калі, нарэшце, будзе скончана з «ваенным псіхозам», які раздуваюць рэакцыйныя кіруючыя колы імперыялістычных краін, і на зямлі будзе забяспечаны трывалы мір.

Вось чаму працоўныя нашай краіны і мільёны людзей добрай волі за мяжой з такой цікавасцю даведаліся пра сустрэчу Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчова з прэзідэнтам ЗША Д. Кенедзі, якая адбудзецца ў Вене.

Палітыка нашай Камуністычнай партыі і ўрада ясная і справядлівая. Яна накіравана на змякчэнне міжнароднай напружанасці, спыненне гонкі ўзбраенняў і ўстанаўленне цесных кантактаў паміж Усходам і Захадам.

Капіталістычным дзяржавам трэба, нарэшце, зразумець, што кола гісторыі нельга павярнуць назад. Сацыялістычны лагер на чале з Савецкім Саюзам з году ў год умацоўваецца, ён з'яўляецца цяпер магутнай сілай. Мірнае суіснаванне дзвюх сістэм сацыялістычнай і капіталістычнай — адзіны шлях для захавання міру і недапушчэння новай згубнай вайны.

Мы жадаем дарагому Мікіту Сяргеевічу поспехаў на венскай сустрэчы з прэзідэнтам ЗША Д. Кенедзі і дагаворанасці па раду хвалюючых усё чалавецтва пытанняў.

**Б. ПЛАТОНАЎ,**
**народны артыст СССР.**

## ПРАЎДА ЗА НАМІ

*У гэтыя дні нашы позіркі скіраваны да сталіцы Аўстрыі — Вены, дзе адбудуцца неафіцыйныя перагаворы паміж кіраўнікамі ўрадаў СССР і ЗША.*

*І не толькі нашы, дарэчы сказаць. Увесь свет з вялікай надзеяй сочыць за сустрэчай Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчова і прэзідэнта ЗША Д. Кенедзі, за сустрэчай, якая можа стаць сапраўды гістарычнай.*

*«Мір» — гэта слова цяпер на вуснах мільёнаў простых людзей нашай планеты. Мір — гэта і жаданне, і патрабаванне народаў.*

*Шаснаццаць год мінула з таго часу, як адгрымелі залпы другой сусветнай вайны, а на зямлі ўсё яшчэ неспакойна. То там, то тут успыхваюць ваенныя канфлікты, то тым, то тут льецца кроў, чуюцца стогны параненых, плач мацярок.*

*Зноў узнялі галовы недабітыя заходнегерманскія генералы і, забыўшыся на ўрокі мінулага, гавораць ваяўнічыя прамовы. Яны патрабуюць у сваіх амерыканскіх апекуноў і супольнікаў атамнай зброі. Навошта — здагадацца няцяжка...*

*«Дранг нах Ост» — вось іх мэта, вось іх прагная мара.*

*У гэтых умовах барацьба за мір, за вырашэнне міжнародных пытанняў мірным шляхам набывае асаблівы сэнс. Рашучае «не» вайне — такі дэвіз усіх міралюбівых народаў.*

*Першая роля ў гэтай барацьбе па праву належыць савецкаму народу, нашай магутнай міралюбнай дзяржаве. Мы заўсёды былі і застаёмся вернымі прыхільнікамі міру ва ўсім свеце. Мы гаварылі і гаворым заходнім дзяржавам: «Давайце жыць у міры, давайце суіснаваць».*

*Вялікім барацьбітом за мір славіцца кіраўнік нашай дзяржавы Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, які заслужыў любоў простых людзей усёй нашай планеты.*

*Сёння і заўтра, гэта значыць у дні перагавораў у Вене, за спіною кіраўніка нашай дзяржавы нябачна будуць стаяць дзвесце мільёнаў савецкіх працаўнікоў і яшчэ амаль васемсот мільёнаў працаўнікоў краін сацыялістычнага лагера. За яго спіной нябачна стануць мільёны рабочых і сялян Азіі, Афрыкі, Заходняй Еўропы і самой Амерыкі. Ведучы перагаворы з прэзідэнтам Д. Кенедзі, Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў будзе выказваць іх волю да міру.*

*Было б дачасна рабіць якія-небудзь аптымістычныя прагнозы. Як паказвае жыццё, дасягнуць пагаднення з заходнімі дзяржавамі цяжка, вельмі цяжка... Але мы верым і спадзяёмся. Мы ведаем, здаровы сэнс і праўда на нашым баку, а праўда абавязкова пераможа.*

**Георгій ПАПОЎ.**

## Жадаем поспехаў

У гэтыя дні мне не раз даводзілася чуць ад сваіх таварышаў па рабоце: вельмі добра, што кіраўнікі ўрадаў дзвюх вялікіх дзяржаў дамовіліся аб сустрэчы. Я і раней быў цвёрда перакананы ў тым, што настане час, калі настойлівыя і справядлівыя намаганні Мікіты Сяргеевіча Хрушчова прымусяць кіраўнікоў заходніх дзяржаў цвяроза ацаніць міжнароднае становішча і назаўсёды пакончыць з «халоднай вайной».

Кожны з нас ведае: усё, што робіцца пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў нашай краіне — на ўсіх рубяжах сямігодкі, у галіне навукі, тэхнікі, культуры — усё для таго, каб квітнела мірнае жыццё краіны Саветаў.

Я і ўсе мае таварышы горача верым, што наш дарагі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў з усёй паўнатой выкажа думкі і спадзяванні савецкіх людзей. Увесь наш народ жадае таварышу Хрушчову вялікага поспеху ў яго высакароднай місіі міру.

**М. ЛІБІНТАЎ,**
**кантралёр АТК Мінскага радыёзавода.**

# ЖЫЦЦЁ—ТЭМА НАШЫХ ФІЛЬМАЎ

— Студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў існуе са студзеня 1961 г., — сказаў у гутарцы з нашым карэспандэнтам яе дырэктар М. Горцаў. — Але наш творчы калектыў ўжо тое-сёе зрабіў для ажыццяўлення тых задач, якія пастаўлены перад новай мастацкай установай.

Мы імкнёмся адлюстраваць у сваіх фільмах жыццё беларускага народа, яго поспехі і здабыткі ў навуцы, тэхніцы, сацыялістычнай індустрыі і сельскай гаспадарцы, у галіне культуры і аховы здароўя.

Калектыў студыі яшчэ канчаткова не сфарміраваны, слабае ў нас тэхнічнае аснашчэнне. Аднак праграма выпуску новых фільмаў выконваецца. Не ўсё яшчэ нам добра ўдаецца, але мы не спыняем пошукаў і намаганняў для таго, каб зрабіць лепш.

Сярод выпушчаных фільмаў розных жанраў нашага профілю мы можам назваць навукова-папулярны фільм «Блакітная цаліна» — каляровы нарыс на тэму аб вытворчасці рыбы ў рэспубліцы, карціну аб прагрэсіўнай будаўнічай тэхніцы, атэістычныя фільмы «Па «святых» месцах» і «Са змроку да святла», дакументальны фільм «Вылет адбудзецца», які зняты ў Мінскім аэрапорце, і прысвечаны лётчыкам-мільянерам, і іншыя фільмы.

Па сцэнарыю М. Ваданосава закончана вытворчасцю карціна «Песні працы» — нарыс аб Віцебскім домабудаўнічым камбінаце.

Студыя пачала ўпершыню ў беларускай кінематаграфіі выпускаць часопісы «Мастацтва Беларусі» і «Спартыўны агляд» з перыядычнасцю адзін раз у тры месяцы.

Калектыў студыі з выключнай цікавасцю пазнаёміўся з артыкулам М. С. Хрушчова ў часопісе «Коммунист». Гэты партыйны дакумент заклікае нас павысіць патрабавальнасць да ідэйнасці і майстэрства кінафільмаў, не задавальняцца «сярэднім» узроўнем у адлюстраванні велічнага подзвігу будаўнікоў камунізма.

Беларускі народ з выключным уздымам рыхтуецца сустрэць XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза выдатнымі вытворчымі перамогамі. Адлюстраваць усенародны ўздым, вялікую любоў савецкіх людзей да партыі — наш важнейшы абавязак.

Студыя распрацавала шырокую праграму выпуску новых фільмаў у перадз'ездаўскі перыяд.

На тэмы сельскай гаспадаркі і пра дзейнасць слаўных людзей беларускай вёскі будуць падрыхтаваны карціны «Маладыя кукурузаводы рэспублікі», аб калгасе «Рассвет» Кіраўскага раёна і інш.

Значную ўвагу студыя аддае прамысловасці і будаўнічай індустрыі.

Па сцэнарыю М. Бярозкі рэжысёр Л. Матусевіч нядаўна закончыў здымаць каляровы фільм (у дзвюх частках) аб прадпрыемстве камуністычнай працы — Віцебскім дывановым камбінаце.

Будуць здымацца таксама фільмы «Мінск і яго архітэктура» (па сцэнарыю І. Элентуха і Р. Няхая), нарыс «Творцы новага» — аб вынаходцах і рацыяналізатарах (сцэнарый М. Гарулёва), «Будаўніцтва Бярэзінскай ГРЭС» і «Салігорскія шахцёры».

Тэмы культуры таксама знаходзяцца ў цэнтры ўвагі студыі.

Мы можам назваць будучыя кінанарысы: аб Ашмянскім народным тэатры (сцэнарый Ф. Бондаравай), пра народнага паэта Янку Купалу (аўтар тэксту А. Вялюгін), «Кандрат Крапіва» (сцэнарый А. Макаёнка), карціны аб эстэтычным і фізічным выхаванні дзяцей, аб сельскім клубе.

— Асаблівае значэнне, — гаворыць М. Горцаў. — мы надаём шыракаэкраннаму поўнаметражнаму фільму «Песні роднага краю», які рэжысёр І. Вейняровіч будзе здымаць па сцэнарыю М. Калачынскага.

Не забывае студыя і партызанскай тэмы.

П. Пестрак і рэжысёр П. Шамшур ствараюць кінанарыс аб Герої Савецкага Саюза Веры Харужай. Рэжысёр С. Прошын па сцэнарыю М. Горцава здымае карціну «Па партызанскіх сцежках».

Мы надаём выключнае значэнне падрыхтоўцы фільма аб мінскім партыйным падполлі ў дні Вялікай Айчыннай вайны і дакументальнага нарыса «Дзень нашай рэспублікі». Гэты твор будзе здымацца ў ліпені.

Увогуле ў гэтым годзе будзе паказана гледачам больш 40 фільмаў і 52 перыядычныя часопісы («Савецкая Беларусь» і інш.).

— Нягледзячы на асобныя ўдалыя фільмы — сказаў М. Горцаў, — праблема высакаякасных сцэнарыяў застаецца ўсё яшчэ не вырашанай. Перш-наперш у гэтай галіне нам здолеюць дапамагчы беларускія пісьменнікі і журналісты. Да іх мы і звяртаемся.

Наш калектыў абавязан паклапаціцца аб выхаванні маладых кадраў розных спецыяльнасцей і шукае для гэтага адпаведных формы.

У эксперыментальных мэтах будзе адкрыта вячэрняя аматарская студыя з аддзяленнямі: сцэнарна-рэдактарскім, рэжысёрскім, аператарскім, акцёрскім і па музычнаму афармленню навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. У якасці выкладчыкаў будуць запрошаны вядомыя майстры мастацтва.

Хацелася б, каб кінакрытыка і друк больш увагі аддалі аналізу нашай прадукцыі, у мэтах яе папулярызацыі і выпраўлення хібаў у фільмах.

Новая кінастудыя спадзяецца сустрэць XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза творчымі здабыткамі.

## КАНЦЭРТ ЛЕПШЫХ

У свята юнацтва і талентаў выліўся заключны канцэрт агляду мастацкай самадзейнасці выхаванцаў навучальных устаноў прафесіянальна-тэхнічнага навучання Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай асветы Беларускай ССР.

Пасланцы тэхнічных, будаўнічых, чыгуначных і фабрычна-заводскіх вучылішчаў Мінска, Гомеля, Брэста, Віцебска, Гродна, Магілёва, Полацка і іншых гарадоў рэспублікі — удзельнікі агляду — пераканаўча паказалі на гэтым канцэрце, як глыбока ўваходзіць мастацтва ў жыццё і быт маладых будаўнікоў камунізма.

Многа добрага можна сказаць пра кожны калектыў ці саліста, якія аспрэчвалі права на ўдзел у фінальным канцэрце. Але спынімся на тых, хто па праву стаў пераможцам.

Вельмі моцнае ўражанне пакінула мастацкая самадзейнасць Дома культуры прафтэхасветы горада Мінска (мастацкі кіраўнік Х. Фамін). Яна вызначаецца сваёй масавасцю, выдатнай арганізаванасцю, дасканаласцю выканання многіх нумароў праграмы. Асабліва вызначыўся танцавальны калектыў. У гэтым заслуга Н. Гурвіча, аднаго са старэйшых у рэспубліцы прадстаўнікоў прафесіянальнага харэаграфічнага мастацтва, які шмат год дапамагае мастацкай самадзейнасці.

Сярод хораў і вакальных ансамбляў лепшае ўражанне пакінулі калектыў, якім кіруе В. Палякоў (Мінск), група навучэнцаў прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча № 2 (Полацк), зводны хор навучэнцаў Брэста (кіраўнік І. Вінаградава). У іх зладжана гучаць галасы, выразна вымаўляецца тэкст, гнуткая нюансіроўка. З салістаў шырэй за ўсё ў заключным канцэрце былі прадстаўлены спевакі. Варта адзначыць навучэнца будаўнічага вучылішча № 11 Аляйкоўскага, які выканаў «Вячэрнюю песню» Салаўёва-Сядога.

Задавальненне прынеслі слухачам выкладчык БУ-25 Н. Кавалёва, якая выканала рускую народную песню «Вниз по Волге-реке», вучні Е. Сачанка і В. Зінкевіч (рамеснае вучылішча № 5), В. Жыбуль (ПТВ-І, г. Брэст), якія вельмі выразна праспявалі частушкі «Стопудовы ўраджай», песню Макравусава «У нас у пасёлку» і інш.

На жаль, не пашанцавала ў заключным канцэрце інструментальнаму жанру і чытальнікам. Яны былі прадстаўлены вельмі слаба.

Варта сур'ёзна задумацца таварышам, якія адказваюць за мастацкае выхаванне навучэнцаў прафтэхшкол рэспублікі, над пашырэннем беларускага рэпертуару ва ўсіх жанрах.

**В. УРАЛЬСКАЯ**

## Падзеі Факты Навіны

☐ **Два дні працаваў у Мінску скліканы Міністэрствам культуры БССР і ЦК ЛКСМБ рэспубліканскі семінар бібліятэчных работнікаў.**

**З дакладам «Камуністычнае выхаванне моладзі і задачы бібліятэк» выступіў сакратар ЦК ЛКСМБ Г. Жабіцкі.**

**На семінары былі заслуханы паведамленні загадчыка метадычнага аддзела Віцебскай абласной бібліятэкі А. Філімонава «Работа бібліятэк Віцебскай вобласці па камуністычнаму выхаванню моладзі», метадыста Магілёўскай абласной бібліятэкі Э. Мурашовай «Бібліятэкі Магілёва ў дапамогу брыгадам камуністычнай працы і моладзі, якая змагаецца за гэта высокае званне».**

**Загадчыца метадычнага аддзела Гомельскай абласной бібліятэкі Я. Умецкая і загадчыца Бабруйскай гарадской бібліятэкі імя А. С. Пушкіна В. Зорына расказалі, як пастаўлена прапаганда літаратуры па эстэтычнаму выхаванню моладзі ў бібліятэках вобласці і прапаганда навукова-атэістычнай літаратуры сярод моладзі.**

**Начальнік бібліятэчнай інспекцыі Міністэрства культуры БССР Н. Крупенька зрабіла для ўдзельнікаў семінара даклад на тэму: «Работа бібліятэк рэспублікі па давядзенню кнігі да кожнай сям'і».**

**Удзельнікі семінара шырока абмяняліся вопытам сваёй работы.**

☐ **Кінафікатары Астравецкага раёна дапамагаюць калгаснікам выконваць рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС. Сёлета калгасы раёна ўпершыню пачалі вырошчваць цукровыя буракі. Кінамеханікі паказалі калгаснікам кароткаметражныя фільмы «Знішчайце шкоднікаў цукровых буракоў», «Аб квадратах прапашных культур» і іншыя.**

**За час фестывалю сельскагаспадарчых фільмаў працаўнікі палеў прагледзелі звыш 20 фільмаў.**

**Цяпер работнікі культуры рыхтуюцца правесці кінафестываль, прысвечаны XXII з'езду КПСС.**

## ЧАС ХВАЛЯВАННЯЎ

**Праз месяц яны атрымаюць дыпломы і раз'едуцца ў розныя куткі нашай вялікай краіны. Яны будуць працаваць бібліятэкарамі, мастакамі, артыстамі, выкладчыкамі... Але пакуль яны яшчэ студэнты. У іх самая гарачая пара — пара экзаменацыйных работ, здачы дыпломаў. Час вялікіх хваляванняў.**

**Сёлета, як і ў мінулыя гады, у рэспубліцы падрыхтавана вялікая армія работнікаў культуры. Беларуская дзяржаўная кансерваторыя дае пуцёўкі ў вялікае мастацтва, у жыццё 38 выхаванцам. Прыкладна столькі ж атрымаюць дыпломы мастакоў, артыстаў, графікаў, скульптараў у Тэатральна-мастацкім інстытуце.**

**Вялікі выпуск адбудзецца ў Магілёўскім культасветвучылішчы. Званне арганізатараў-метадыстаў клубнай работы атрымае больш чым сто навучэнцаў. Сярод іх — выдатнікі вучобы Валерый Будненцкі, Надзея Жогла, Тацяна Фаменка і іншыя. Некалькі дзесяткаў чалавек заканчвае Мінскае і Брэсцкае музычныя вучылішчы.**

**Што і казаць, хвалююцца дыпламанты! У іх цяпер на ўліку кожная мінута. Адны з раніцы да вечара — у бібліятэцы, другія знаходзяць утульныя куткі ў скверах і парках. На здымку вы бачыце будучых артыстаў — студэнтаў IV курса Тэатральна-мастацкага інстытута Б. МАСУМЯН, Э. ШАЛАПЕНАК, Н. ФЕДАРАВУ, І. НАГАУКІНА, Ул. КАРАТКЕВІЧА. Яны гутараць аб дыпломным спектаклі, аб сваіх ролях.**



*Пісьмы з азёрнага краю*

# ДРУГАЯ ПРАФЕСІЯ сельскага інтэлігента

У Мінск з калгаса імя Леніна прыехалі артысты. Вясёлыя, загарэлыя твары ва ўсіх, іскрыстыя вочы. Вядома, ім боязна крыху. Як сталічны глядач сустрэне іх спектакль? Здаецца, рыхтаваліся старанна, ролі добра павывучвалі. Але яны ўсяго толькі аматары сельскай сцэны, а ў Мінску столькі тэатраў, столькі вядомых майстроў. Ды на агляд запрошан не адзін іх калектыў. З усяе рэспублікі з'ехаліся калгасныя артысты, каб паказаць сваё майстэрства. Хто ж будзе лепшы сярод іх?..

Прыязны, добразычлівы мінскі глядач. Як горача апладзіраваў ён настаўніцы Ніне Строгавай, калгаснаму цесляру Станіславу Казаку, шафёру Восіпу Лапкоўскаму, рахункаводу Уладзіміру Мацкевічу, сакратару партыйнай арганізацыі Міхаілу Чэркасу... Усім, усім артыстам, хто быў заняты ў спектаклі па п'есе Івана Шамякіна «Не верце цішыні».

Самадзейныя артысты калгаса імя Леніна Слабодкаўскага сельсавета заваявалі на рэспубліканскім аглядзе першую прэмію. Гэта было сур'ёзнае прызнанне вялікіх творчых магчымасцей аматараў калгаснай сцэны, жыхароў азёрнага краю нашай рэспублікі. У гэтай перамозе ёсць праца і настаўніка Міхаіла Баляслававіча Чэркаса. Ён працуе ў Слабодкаўскай сярэдняй школе, выкладае спевы, маляванне, займаецца яшчэ з чацвёртым класам. Здаецца, нагрузка поўная, ды яшчэ сшыткі вучнёўскія трэба дома правяраць. Але не шукае сабе спакойнага жыцця Міхаіл Баляслававіч. Характар, як кажуць, не той. Да ўсяго яму справа, усё ён павінен ведаць. — і як адсеялі кукурузу ў калгасе і чаму затрымаліся, і як прайшоў урок фізікі, хто з вучняў найбольш актыўна дапамагае калгасу, і што новага ў бальніцы, хто чытае чарговую лекцыю ў клубе і ці падрыхтаваўся да выступлення... А самадзейнасць — прадмет яго асаблівых клопатаў. Сам вялікі аматар гэтай справы, ён дбае пра тое, каб больш настаўнікаў, урачоў прымалі ўдзел у хоры, драматычным, танцавальным гуртках, каб часцей у сельскім Доме культуры, у брыгадах наладжваліся канцэрты для калгаснікаў. Ён спрабуе свае сілы і на ніве паэзіі — піша сатырычныя вершы. Іх неаднаразова друкавалі ўжо на старонках раённай газеты.

Змястоўнае, цікавае, кіпучае жыццё ў сельскага інтэлігента. Грамадская работа стала для яго патрэбай душы, другой пасадай, такой жа неабходнай і важнай, як і праца ў школе, бальніцы, у калгасе.

— Ведаеце, надзвычай люблю паэзію Някрасава, — расказвае Міхаіл Баляслававіч. — Яго крылатыя словы: «Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан» ніколі не забываю. — І, крыху памаўчаўшы, ён дадае: — Гэты запавет паэта для кожнага сельскага інтэлігента добры напамінак аб яго грамадзянскім абавязку.

Вёска Слабодка, як ні адна з іншых у раёне, багатая на інтэлігенцыю. Тут 20 настаўнікаў, звыш 20 урачоў, каля ста медыцынскіх сясцёр. Ды гэта ж такі неацэнны скарб для калгаса! І ўсё маладыя, энергічныя, з добрым камсамольскім запалам. Маладыя ўрачы Альбіна Галунова і Ларыса Голяс захапляюцца самадзейнасцю. І плён іх працы відаць: у бальніцы працуюць добры хор, драматычны і танцавальны гурткі. Сярэдняя школа таксама мае сваю самадзейнасць. Гэтыя калектывы часта выступаюць з канцэртамі ў сваім калгасе, выязджаюць да суседзяў, у Браслаў і г. д. Характэрна тое, што і пры сельскім Доме культуры таксама працуюць самадзейныя гурткі, ёсць яны і пры Лунеўскай бібліятэцы, якая знаходзіцца на тэрыторыі калгаса імя Леніна.

Толькі тры гады пасля заканчэння Мінскага медыцынскага інстытута працуе ў Слабодцы Станіслаў Іосіфавіч Доўнар, а ўжо зарэкамендаваў сябе добрым урачом. Ён прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Яго лекцыі аб шкоднасці алкаголю, аб выкарыстанні атамнай энергіі ў медыцыне і на іншыя тэмы нязменна збіраюць вялікую аўдыторыю, праходзяць жыва і цікава.

А якім поспехам у калгаснікаў, карыстаюцца выступленні маладога агранома Браніслава Гапона! Ён добра спявае, прымае актыўны ўдзел і ў хоры, і ў драматычным гуртку. І гутаркі яго, як і лекцыі на сельскагаспадарчыя тэмы, заўсёды ўважліва слухаюць працаўнікі вёскі, бо заўсёды ён раскажа нешта новае, чаго не ведае калгаснік і што карысна для гаспадаркі арцелі.

— Вы пытаеце, як жывецца на вёсцы, ці сумуем мы тут? — Станіслаў Іосіфавіч Доўнар весела ўсміхнуўся. — Па шчырасці сказаць, ніколі пра гэта не думаў. Ведаеце проста няма калі сумаваць. Туга ды сумота—гэта для гультаёў, а ў нас жа столькі работы.

Станіслаў Іосіфавіч расказвае, як многа трэба зрабіць, каб узняць культуру быту калгаснай вёскі. Яшчэ ж ёсць калгаснікі, якія не трымаюцца правіл гігіены ў быце, не дбаюць пра добраўпарадкаванне прысядзібных участкаў, абыякавы да таго, што на вясковай вуліцы брудна. Некаторая частка насельніцтва яшчэ знаходзіцца пад уплывам рэлігійнага дурману. Не пазбавіліся мы і ад такога зла, як п'янства.

— Вось бачыце, колькі яшчэ трэба працаваць сельскаму інтэлігенту, — гаворыць ён. — У прапагандзе новага быту вялікую дапамогу магло б аказаць нам кіно. Але наша Беларуская студыя не выпускае кароткаметражныя фільмы, у якіх бы шырока паказваўся быт новай калгаснай вёскі — яе сучасная планіроўка, абсталяванне кватэры і як праводзяць свой адпачынак працаўнікі палёў і жывёлаводы ў будзённыя і святочныя дні.

Сельская інтэлігенцыя — вялікая культурная сіла на вёсцы. Не ўяўляюць сабе сваёй работы без актыўнага ўдзелу інтэлігенцыі і дырэктар Слабодкаўскага сельскага Дома культуры Тацяна Каўчур, і бібліятэкар-масавік тав. Стабулянец, і загадчык Лунеўскай сельскай бібліятэкі Пятро Крумін. Настаўнікі В. Нараленкава чытае лекцыі на атэістычныя тэмы. П. Прудпікаў—на літаратурныя, Ул. Мацкевіч — на грамадска-палітычныя тэмы, а дырэктар васьмігадовай школы А. Ермаловіч сама актыўна ўдзельнічае ў самадзейнасці і, акрамя таго, умела прапагандуе кнігу.

Нястомнымі прапагандыстамі культуры называюць калгаснікі сельгасарцелі імя Леніна сельскую інтэлігенцыю. Можна назваць нямала імён настаўнікаў, медыцынскіх работнікаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, якія з'яўляюцца актыўнымі памочнікамі партыйнай арганізацыі і сельскага Савета. За гэта яны заслужылі гарачую ўдзячнасць калгаснікаў, бо не абмяжоўваюцца выкананнем сваіх прафесіянальных абавязкаў, але нясуць у быт вёскі гарадскую культуру, святло навукі і ведаў.

І само жыццё патрабуе не толькі наладжваць лекцыі або арганізоўваць мастацкую самадзейнасць. Працаўнікі вёскі змагаюцца цяпер за круты ўздым усіх галін сельскай гаспадаркі, а для гэтага неабходны веды. У гэтай справе, вядома, немалаважнае значэнне адыгрываюць і лекцыя, і кіно, і прапаганда вопыту перадавікоў. Але ёсць яшчэ адзін шлях да ведаў — гэта кніга. І культработнікі Слабодкаўскага сельсавета дамагліся таго, што цяпер кнігу чытаюць у кожным калгасным двары.

Абавязкі сельскага інтэлігента разнастайныя, часам і нечаканыя. Да яго, самага культурнага, адукаванага і аўтарытэтнага чалавека на вёсцы, часта прыходзяць прасіць параду, да яго голасу прыслухоўваюцца на розных нарадах, сесіях сельскага Савета. І трэба высока несці годнасць савецкага інтэлігента, выхаванага нашай партыяй і народам, якому Радзіма дала адукацыю, узброіла ведамі, дала магчымасць працаваць па спецыяльнасці.

Назіраючы за работай сельскіх устаноў культуры, можна пераканацца, што яны працуюць добра там, дзе сельская інтэлігенцыя актыўна дапамагае клубу, бібліятэцы, Дому культуры. Адной з лепшых сельскіх бібліятэк у раёне лічыцца Даўяцкая. Загадвае ёю Юзэфа Іосіфаўна Абалевіч — энергічны, ініцыятыўны работнік.

— Я ніколі адна нічагусенькі не зрабіла б, — шчыра прызнаецца Юзэфа Іосіфаўна. — Усё ў нашай бібліятэцы робяць самі калгаснікі, інтэлігенцыя, а мы, работнікі культуры, выступаем толькі ў ролі арганізатараў.

Даўяцкая сельская бібліятэка знаходзіцца ў наёмным памяшканні. Гэта, вядома, дрэнна. Але паглядзіце, як у гэтым невялічкім пакойчыку чыста, утульна, як на святло яго вакон вечарамі ахвотна ідуць і старыя калгаснікі і моладзь. А хто дапамагае Юзэфе Іосіфаўне прапагандаваць кнігу? Настаўнікі Рудаўскай сямігадовай школы, медыцынскія работнікі, даяркі Леакадзія, Соф'я і Раіса Капуста, Алена Кабак і іншыя.

Чатыры гады працуе ў Ахрэмаўскім сельскім Доме культуры бібліятэкарам-масавіком Зінаіда Іванаўна Пальчэўская. За добрую работу Дому культуры ўручан пераходны Чырвоны вымпел.

— І нашым поспехам мы абавязаны ў першую чаргу настаўнікам Г. Марозаву, В. Аксяновіч, А. Рубашку, — расказвае Зінаіда Іванаўна.

А цяпер зойдзем у Краснагорскі сельскі клуб, якім загадвае камсамолка Марыя Карэнік, малады, нявопытны работнік на культурнай ніве. Вядома, каб Марыя праявіла больш зацікаўленасці ў рабоце, заўсёды было б чыста ў клубе, на паліцах кніжных быў бы адмысловы парадак, і не сумавала б яна, седзячы адна ў клубе.

Нядаўна адбылася сесія Плюскага сельскага Савета дэпутатаў працоўных, прысвечаная рабоце ўстаноў культуры. На сесіі адзначалася, што ў Краснагорскім клубе не праводзяцца вечары, вельмі рэдка чытаюцца лекцыі, мала чытачоў-калгаснікаў.

А побач жа з клубам знаходзіцца пачатковая школа, у якой працуюць два настаўнікі. Загадчык школы Станіслаў Іосіфавіч Храпан — рэдкі госць у клубе, яго і самога нельга залічыць да вялікіх аматараў кнігі. За пяць месяцаў гэтага года ў яго фармуляры запісана толькі чатыры кнігі, а за мінулы год ён справіўся прачытаць сем кніг. Вельмі ўжо мала гэта для сельскага інтэлігента. А такое здарылася таму, што празмерна многа Станіслаў Іосіфавіч і яго жонка аддаюць увагі хатнім справам.

У першым пісьме з азёрнага краю «Як мокрае гарыць» мы расказвалі аб тым, што занядбана культурна-масавая работа ў Опсаўскім сельскім Доме культуры. Адна з прычын гэтага ў тым, што яго дырэктар Мікалай Васільевіч Халімоненка страціў сувязь з мясцовай інтэлігенцыяй. Сакратару партыйнай арганізацыі настаўніцы Кацярыне Дзмітраўне Плісецкай варта было б зацікавіцца, чаму настаўнікі сярэдняй школы і асабліва школы-інтэрната ўхіліліся ад удзелу ў рабоце Опсаўскага Дома культуры, чаму многія педагогі не з'яўляюцца чытачамі бібліятэкі клуба, чаму, нарэшце, сама Кацярына Дзмітраўна сёлета не ўзяла тут ніводнай кнігі? Як жа можна мірыцца з тым, што клуб адгарадзіўся ад жыцця, яго перасталі наведваць калгаснікі.

І яшчэ хочацца ўспомніць адзін абуральны факт. Пра яго мне расказала загадчыца аддзела культуры Кацярына Логінаўна Шапо. Неяк у аддзел прыйшла ўсхваляваная загадчыца Пагошчанскага сельскага клуба камсамолка Фаня Канаплянік. Старанная дзяўчына, але цяжка ёй адной працаваць.

Канаплянік скардзілася на тое, што надоечы пайшла да дырэктара Касталінскай сямігадовай школы тав. Барадзіча і прасіла яе дапамагчы арганізаваць у клубе самадзейнасць, а тая адмовілася.

У Браслаўскім раёне працуе вялікі атрад сельскай інтэлігенцыі. Найбольш, вядома, настаўнікаў. Іх у азёрным краі 560 чалавек ды яшчэ ўрачы, аграномы, заатэхнікі, сувязісты, інжынеры. Калі ўсё гэта багацце падсумаваць, атрымаецца ўнушальная лічба. Пераважная большасць сельскіх інтэлігентаў — гэта самыя актыўныя праваднікі ў шырокія масы працоўных рашэнняў партыі і ўрада, самыя актыўныя змагары за камуністычнае выхаванне савецкіх людзей. Гонар і слава гэтым энтузіястам, што знаходзяцца на перадавых рубяжах нашага часу.

Тым не менш мы не можам спакойна праходзіць міма фактаў, калі асобныя прадстаўнікі сельскай інтэлігенцыі ўхіляюцца ад грамадскай работы.

Наша інтэлігенцыя — сапраўды народная інтэлігенцыя. Ёй не ўласціва пачуццё зазнайства, фанабэрыі, яе выхавала партыя, савецкая Радзіма. І савецкаму народу, любімай Айчыне аддае яна ўсе найлепшыя парыванні свайго палымянага сэрца.

**Я. ДАНСКАЯ.**

Наш сучаснік у жыцці і мастацтве

# У АКІЯНЕ ЖЫЦЦЯ

Аркадзь МАУЗОН.

У бязмежных прасторах Ціхага акіяна, выконваючы заданне камандавання, ідзе сваім курсам эскадравы мінаносец «Усхваляваны». Заданне адказнае, а ўмовы паходу вельмі цяжкія. Тайфун, што азначае на кітайскай мове вялікі вецер, а на японскай — чорт, уздыбіў усё. На капітанскім мосціку карабля — камандзір Платонаў, яго старшы памочнік Туман, старшы лейтэнант Часоўнікаў, старшына Задорнаў.

Такой карцінай пачынаецца новы спектакль «Акіян» на сцэне Дзяржаўнага рускага тэатра БССР. Зроблена гэтая карціна дабротна, прыгожа і пераканаўча. Нездарма глядач апладзіруе, як толькі адкрываецца заслона. Праўда, такія апладысменты больш нагадваюць аванс і, як правіла, адрасаваны мастаку (у дадзеным выпадку заслужанаму дзеячу мастацтва Латвійскай ССР Ю. Феакціставу). Але, калі зала яшчэ больш горача апладзіруе пасля таго, як такой жа карцінай, тым жа капітанскім мосцікам канчаецца спектакль, дык гэтыя апладысменты ўжо трэба лічыць шчырай падзякай творчаму калектыву, і яны азначаюць— спектакль атрымаўся, ён прыйшоўся да спадобы гледачу.

Вось і паспрабуем разабрацца ў тым, што ж прыймае ў спектаклі глядач, што яго хвалюе, за што ён удзячны тэатру. Для больш грунтоўнай размовы нам прыйдзецца не надоўга аддзяліць тэатр ад драматурга, г. зн. аддзяліць першааснову спектакля ад самога спектакля.

Пачнем з драматурга.

Сваю п'есу А. Штэйн назваў драматычнай аповесцю. Скажам адразу, назваў надзіва трапна. «Акіян» сапраўды бліжэй да аповесці, хоць і напісаны для сцэны. Аб гэтым сведчыць архітэктоніка твора, манера пісьма, павольнае апавяданне, доўгія рытарычныя маналогі, якія часта выглядаюць, як адступленне ад асноўных падзей. Усе асноўныя падзеі твора нібы акантаваны сцэнамі на капітанскім мосціку. Яны не толькі абрамляюць п'есу — імі пачынаецца кожны сцэнічны акт. Гэта не выпадкова. І справа не толькі ў тым, што гэта дыктуецца стылёвай неабходнасцю драматычнай аповесці, а ў тым, што, як нам думаецца, такое вонкавае абрамленне цэментуе ўсё астатняе ў творы, надае значнасць усяму таму, пра што расказвае драматург.

У нашу задачу не ўваходзіць пераказваць змест твора. Але пагаварыць аб тым, што ў ім адбываецца, трэба гэтак жа, як трэба разабрацца ў тым, якая спружына штурхае дзеянне, на чым пабудавана сутыкненне герояў, чым яны жывуць на працягу трох гадзін сцэнічнага дзеяння і больш шасці год рэальнага жыцця. Не будзем пакуль спыняцца на тым добрым, псіхалагічна апраўданым, што ёсць у творы. Яно знайшло сваё адлюстраванне ў спектаклі, і аб гэтым гаворка пойдзе ніжэй. Пагаворым аб тых, на наш погляд, недахопах, якія найбольш ярка відаць іменна ў першааснове спектакля. Гэтыя недахопы раздвойваюць уражанне і мімаволі прымушаюць думаць, што аўтар хацеў і меў сказаць нешта вельмі важнае, але сказаў, напаўголаса, прычым часта нават і не вельмі пераканаўча.

Старая, усім вядомая ісціна — драматургія пачынаецца там, дзе ёсць канфлікт. Гэта значыць страснае сутыкненне характараў з рознымі поглядамі на жыццё, барацьба за лёс нечага прынцыпова важнага. Пры гэтым мы павінны ясна ведаць, з чаго ўсё пачалося. Тады лягчэй прасачыць, як усё будзе разгортвацца далей, актыўна «ўдзельнічаць» у гэтай барацьбе на баку таго, каму мы аддаём свае сімпатыі. Інакш кажучы — мы хочам бачыць не толькі канфлікт, а яго прычыну. Не трэба таксама даказваць, што наш час патрабуе ў літаратурным творы канфлікт з ярка выяўленым грамадскім гучаннем. Без гэтага сапраўднага мастацкага твора, тым больш для тэатра, быць не можа.

Мы паўтараем гэтыя агульнавядомыя думкі таму, што яны могуць дапамагчы разабрацца ў драматычнай аповесці А. Штэйна. Нам здаецца, што ў гэтай п'есе вельмі цьмяна праступае канфлікт, а барацьба больш нагадвае спрэчку, якую можна адразу скончыць, бо ісціна відаць з самага пачатку.

Сапраўды. Старшы лейтэнант Часоўнікаў вырашыў, што яму больш не хочацца служыць на флоце. Яму абрыдла дысцыпліна. Як «мыслячаму» чалавеку, інтэлігенту, яму, паводле ўласнага прызнання, «гораздо труднее наводить торпеду на цель, хотя бы... хотя бы и во имя цели...»

І далей, ужо больш катэгарычна: «...Інтэлігент не можа забіваць...»

Паўтараем, з гэтага пачынаецца канфлікт драматычнай аповесці. Вонкава гэта ўсё гучыць даволі пераканаўча і можа на першы погляд прымусіць паверыць, што штуршок для далейшай спрэчкі, наступных сутыкненняў нават і моцны. Але на першы погляд.

Як вядома, Часоўнікаў — сын контрадмірала. Хлопчыкам ён перажыў нямецка-фашысцкую блакаду Ленінграда, дзе не мог не бачыць, як пакутвалі і паміралі людзі ў акружаным ворагам горадзе. Убачанае не магло не пакінуць у ім нянавісці да вайны і да тых, хто яе пачаў. Ён вучыўся ў школе, быў піянерам, потым уступіў у камсамол. Скончыў вайсковае мараходнае вучылішча, прычым пайшоў туды па свайму жаданню. Там прайшло яго юнацтва. Калі ён патрабуе дэмабілізацыі, яму ўжо 27 год. Скідак на тое, што ў яго яшчэ фармуецца характар, быць не можа. Вось і ўзнікае пытанне, ці не падобна ўся спрэчка ў другой карціне першага акта на выбрык гэтага свавольнага хлапчука, які раптам не хоча больш гуляць са сваімі сябрамі і патрабуе, каб яму вярнулі яго цацкі. Аднак жа, каб спрэчка ўсё ж была падобна на нешта больш прынцыповае, Часоўнікаў, калі яму прапануюць уступіць у партыю, гаворыць ужо нешта такое, што можа быць тыповым для інтэлігента першых год рэвалюцыі, а не нашага сучасніка.

Вось яго словы:

— Дарагія мае хлопчыкі. Я хачу гаварыць «так», калі лічу патрэбным сказаць «так», і хачу гаварыць «не», калі лічу патрэбным гаварыць «не». А калі я ўступлю ў партыю, я буду вымушаны гаварыць «так», калі хочацца сказаць «не» і «не», калі хочацца сказаць «так»...

Мы не аспрэчваем таго, што драматург бачыў людзей, якія маглі б і сёння сказаць прыкладна тое самае, што гаворыць Часоўнікаў. Але паставім пытанне прама: ці ўласціва гэта колькі-небудзь для ідэйных пошукаў нашага маладога сучасніка?

Што Часоўнікаў выглядае свавольным хлопчыкам, сведчыць і яго наступны ўчынак. Каб абавязкова дабіцца дэмабілізацыі, ён напіваецца і ўчыняе скандал.

Што ж, і гэта верагодна. І такое можа быць. Але зноў жа ўзнікае думка, што ўсяго гэтага вельмі мала для сур'ёзнага драматургічнага канфлікту. Хочацца яшчэ і яшчэ раз напомніць, што ўсё гэта адбываецца паміж сур'ёзнымі людзьмі, у наш час, на ваенным караблі.

Так пры першым азнаямленні з новай драматычнай аповесцю А. Штэйна ў часопісу «Театр» № 1 за 1961 г., мы адразу ж сустракаемся ў вобразе Часоўнікава з такімі, мякка кажучы, «якасцямі», якія прымушаюць нас узяць пад сумненне аснову драматургічнага твора — драматычны канфлікт.

Мы знарок так падрабязна спыніліся на Часоўнікаву, бо яго паводзіны з'яўляюцца першай прычынай усіх сутыкненняў у творы.

Даўні сябра Часоўнікава Платонаў супраць яго дэмабілізацыі, ён хоча абавязкова захаваць вопытнага афіцэра для флоту. Сама па сабе барацьба Платонава за Часоўнікава, жаданне вярнуць свайго сябра на правільны шлях — высакародныя. Але іменна негрунтоўнасць матываў паводзін Часоўнікава, відавочная несур'ёзнасць яго довадаў зніжае вобраз Платонава як камуніста і камандзіра, надае яму рысы Дон-Кіхота, які ваюе з ветракамі.

Барацьба Платонава за Часоўнікава выглядае гэтак жа непераканаўча, як імкненне Часоўнікава дабіцца свайго. І атрымліваецца не канфлікт, а даволі бязмэтная спрэчка.

Аўтар хацеў сказаць нешта цікавае, важнае. Ён паставіў перад сабой вельмі высакародную мэту — давесці, што чалавека, калі ён пахіснуўся, трэба не падштурхоўваць, каб ён зусім паваліўся, а наадварот, падтрымаць. Сродкі ж, якімі драматург карыстаецца, каб увасобіць гэтую ідэю, аказваюцца вельмі слабымі.

Ёсць у драме і яшчэ некаторыя хібы, але яны не настолькі ўжо важныя, каб на іх спыняцца асобна, тым больш, што некаторыя выпраўлены ў спектаклі.

Таму і пяройдзем да таго, што мы ўбачылі на сцэне.

Не будзем называць спектакль «Акіян» этапным, бесспрэчнай удачай, бездакорным. Ён не мог такім быць з-за недасканаласці п'есы. Але пастаноўшчык спектакля рэжысёр М. Співак і ўвесь пастановачны калектыў прыклалі нямала сіл, каб выявіць у п'есе ўсё лепшае і апраўдаць, наколькі гэта магчыма, тое, што не апраўдана ў драматурга. І ўвогуле атрымаўся даволі цікавы твор, хоць не без істотных недахопаў.

Да іх трэба перш-наперш аднесці некалькі запаволены рытм. Некаторыя сцэны і маналогі лішнія, без іх можна было б лёгка абыйсціся. Назавём, напрыклад, сцэну, калі старшына Задорнаў піша, сам сабе дыктуючы, вельмі ўжо «па-адэску» стылізаванае пісьмо маці, вялікі маналог Лёлі на кватэры ў Машы (у трэцім акце). Іменна такія сцэны зацягваюць спектакль, нічым не ўзбагачаючы яго. Думаецца, што ў спектаклі і два фіналы. Першы — на палубе карабля, дзе развязаны ўсе вузлы канфлікту Платонаў — Часоўнікаў, і перадапошняя сцэна (перад паходам). Як відаць, і гэтыя недахопы вынікаюць з драматургічнага матэрыялу. Але мы мусім сказаць, што рэжысёр-пастаноўшчык — не проста перакладчык п'есы з мовы літаратурнай на мову сцэнічную, а мастак, які павінен бязлітасна адмаўляцца ад усяго, што замінае яму стварыць як мага больш ясны, цэласны твор.

Было б несправядліва бачыць у спектаклі горкаўцаў толькі сутыкненне Часоўнікава — Платонава і не бачыць іншых дзеючых асоб са сваімі драматургічнымі тэмамі, перажываннямі, пошукамі.

Людзі шукаюць дарог жыцця, але кожны па-свойму. Вось перад намі вобраз Машы. Яе лёс вельмі цікавы і складаны. Амаль з першых радкоў п'есы мы даведваемся, што яна кахае Платонава. Той кахае яе. Платонаў прапануе Машы стаць яго жонкай. Але ён яшчэ толькі лейтэнант. Хто ведае, што яго чакае наперадзе, кім ён будзе. І Маша ідзе замуж за Святлічнага. Не важна, што яна яго не кахае, што ён амаль у два разы старэйшы за яе. Тут важна іншае — Святлічны ўжо цяпер капітан другога рангу. Значыцца, зусім блізкія і наступныя рангі — аж да адмірала. Так грубаму эгаістычнаму разліку прыносіцца ў ахвяру вялікае пачуццё, і зусім натуральна, што Маша не знаходзіць шчасця. Гэта не новая драматургічная сітуацыя. Але яна так па-чалавечы пададзена драматургам, так глыбока псіхалагічна раскрываецца ў спектаклі, што глядач не можа не ўсхваляваццa.

Не менш цікавая сітуацыя Анічкі. Чыстая, светлая дзяўчынка, яна літаральна выскоквае замуж за Платонава. Здавалася б, Платонаў кахае іншую жанчыну — не будзе і Анічцы з ім шчасця. Але тут і аўтар і тэатр правадзяць і даводзяць вельмі важную думку — чалавек з чыстым сумленнем пераможа ўсё. У адрозненне ад Машы, якая збочыла на крывую, але, як ёй здалося, больш блізкую сцяжынку да даброт жыцця, Анічка пайшла па прамой, шырокай, чыстай дарозе.

Match Рознае здарылася на іх шляху. Маша, пахаваўшы нялюбага мужа, застаецца яшчэ больш спустошанай, чым была. Кожны новы дзень для яе такі ж, як учарашні. Страціўшы гордасць, яна ў час другой сустрэчы з Платонавым ледзь не на каленях моліць яго аб каханні і церпіць канчатковую няўдачу. Анічка ж, калі да яе прыходзіць гора, робіцца яшчэ больш дужай, яшчэ больш гордай і перамагае. Перамагаюць чысціня, вера ў права на шчасце.

Іменна гэтыя драматургічныя сітуацыі, не надуманыя, а сапраўды жыццёвыя, надаюць некалькі агульнай назве п'есы і спектакля «Акіян» канкрэтны змест. Тэатр расказвае аб акіяне жыцця, у якім здараецца рознае.

У акіяне жыцця бачым мы кар'ерыста Кукліна. Выпадкова трапіўшы ў свой час у мараходнае вучылішча, ён ужо ў далейшым не выпадкова скочваецца ў багну цынізму, зайздрасці, кар'ерызму.

На хвалях жыцця носіцца пустышка Лёля і зноў жа не выпадкова, а зусім заканамерна трапляе ў абдымкі Кукліна.

У спектаклі многа дзеючых асоб. Іх лёс зведзены разам, пераплецены абставінамі, прымушае гледача задумацца над многімі вострымі праблемамі нашага жыцця.

Таму і не застаецца глядач абыякавым.

Цяпер жа пагаворым пра тых, хто ўвасабляе на сцэне вобразы п'есы.

Першы, пра каго хочацца сказаць, гэта пра Я. Карнаухава ў ролі Платонава. Здарылася так, што Карнаухаў у большасці сваёй іграе ў тэатры ролі так званых адмоўных персанажаў. Тут мы яго ўбачылі ў ролі станоўчай. У адрозненне ад Часоўнікава, у Платонава ў аповесці ёсць яшчэ адна драматургічная калізія. Мы маем на ўвазе яго асабістае жыццё па-за палубай або каютай карабля. Гэтая калізія і больш заматывавана і глыбей распрацавана аўтарам, што ў значнай ступені дапамагае акцёру зрабіць цікавы вобраз. Няўрымслівы і занадта ўжо гарачы ў самым пачатку спектакля, Платонаў — Карнаухаў нібы сталее на нашых вачах, і гэта вельмі добра, бо мы бачым развіццё характару, гэта значыць рост чалавека. Ёсць у Карнаухава многа добрых сцэн, дзе ён страсна і тэмпераментна змагаецца з Часоўнікавым і за Часоўнікава. Акцёр робіць усё, каб гэтыя сцэны гучалі больш праўдзіва. Не яго віна, што яны ўсё ж выглядаюць крыху надуманымі. У межах дадзенага яму матэрыялу акцёр робіць усё вельмі цікава, упэўнена, добра.

Вялікім майстэрствам павінен валодаць акцёр, каб выразна данесці да гледача думку пры дапамозе слова. Яшчэ больш майстэрства трэба мець, каб данесці думку без слова. У гэтым сэнсе надзвычай запамінаюцца дзве сцэны, дзе Карнаухаў — Платонаў вымушаны ўвесь час маўчаць, сцэна сустрэчы з Машай у другім акце і сцэна на кватэры ў Машы ў трэцім. Акцёр маўчыць, а мы бачым, адчуваем, нібыта чуем, пра што ён думае, як думае. Хораша іграе акцёр, і можна не сумнявацца, што калі б Платонаў быў больш пераканаўча напісаны драматургам, дык створаны акцёрам вобраз можна было б па праву лічыць этапным у яго творчай біяграфіі.

Ролю Часоўнікава ў спектаклі выконвае артыст Р. Янкоўскі. Вышэй мы разглядзелі яе ў драматургічным творы. На жаль, Янкоўскі так і не здолеў удыхнуць у створаны ім вобраз праўды жыцця. Наадварот, сваёй ігрой ён пабольшыў недахопы вобраза літаратурнага. Прайшло шэсць год службы на караблі, а яго Часоўнікаў амаль не змяніўся, гэта ўсё такі ж юнак, якім мы яго бачылі, калі ён яшчэ быў мічманам. Вось і не верыш Часоўнікаву — Янкоўскаму, і цяжка прыняць усур'ёз яго пошукі новага, іншага шляху ў жыцці. Усе яго перажыванні здаюцца вельмі ўжо хлапечымі, недарэчнымі для старшага лейтэнанта, марскога афіцэра. Нам думаецца, калі б артыст працаваў больш удумліва, узяў бы за адпраўную кропку тыя шэсць год, якія аддзяляюць яго героя ад мічмана, ён усё ж знайшоў бы тое, што ў нейкай меры дазволіла б выглядаць больш пераканаўча. Тым больш, што ў Часоўнікава ёсць сцэны, дзе аўтарскі матэрыял дае для гэтага пэўныя магчымасці. Успомнім, у прыватнасці, сцэны дома ў Платонава, з Анічкай.

Ёсць у спектаклі яшчэ адзін вобраз марскога афіцэра — Кукліна, якога даволі ярка іграе артыст Ю. Сідараў. Куклін паўстае перад гледачом у выразным абліччы зайздросніка і кар'ерыста, цыніка і прыстасаванца. Такая трактоўка цалкам адпавядае аўтарскай задуме.

Анічку і Машу — два жаночыя вобразы мы бачылі ў выкананні артыстак Л. Былінскай (Анічка) і А. Шах-Парон (Маша). Л. Былінская зусім яшчэ маладая артыстка. Гэта яе першая вялікая і складаная работа ў тэатры. Яшчэ рана гаварыць аб яе сцэнічным майстэрстве. Але маладосць артысткі, уласцівая ёй прывабнасць, здольнасці, вялікая і плённая работа рэжысёра з ёю далі і добрыя вынікі, якія відаць у выкананай ролі.

З безумоўным майстэрствам іграе ролю Машы артыстка А. Шах-Парон. Яна стварае даволі складаны вобраз унутрана спустошанай жанчыны; Маша ўжо ў маладосці пайшла па няправільнаму шляху, пайшла на здзелку з сумленнем і, як вынік, не магла не прыйсці да таго, чым жыве, а праўдзівей кажучы, не жыве, а існуе зараз.

Сакавіта іграе Зуба артыст І. Ражба. Запамінаюцца ў эпізадычных ролях: Мінічава — артыст К. Кулакоў, Святлічнага — артыст С. Дубравін, старпома Тумана — артыст К. Верамейчык, Лёлі — артыстка Е. Весніна.

Месца дзеяння спектакля, як правіла, дыктуе мастаку і спосаб, прыём яго афармлення. Ю. Феакцістаў знайшоў патрэбнае мастацкае вырашэнне спектакля. Удала выкарыстоўваючы адны і тыя ж дэкарацыйныя пляцоўкі, ён паасобнымі дэталямі стварае ўсё новыя і новыя месцы дзеяння. Хочацца яшчэ адзначыць і тое, што і выкананы дэкарацыі вельмі добра, чыста, акуратна. Гэта заслуга тых, каго ў тэатральных рэцэнзіях звычайна не ўспамінаюць — машыніста і рабочых сцэны, мастакоў-выканаўцаў, асвятляльнікаў.

Мы паспрабавалі разгледзець новую работу горкаўцаў, адзначылі ў ёй і добрае і дрэннае. Добрага больш — гэта радуе. І хочацца спадзявацца, што, калі творчы калектыў не заспакоіцца на дасягнутым, а будзе працягваць пошукі, спектакль «Акіян» зойме пачэснае месца ў рэпертуары тэатра.

Пры Навагрудскім раённым Савеце дэпутатаў працоўных нядаўна створана грамадская пастаянная камісія па культурна-асветнай рабоце. Члены камісіі выязджаюць у вёску, правяраюць работу сельскіх дамоў культуры, клубаў, бібліятэк. На пасяджэнні камісіі робяць справаздачы кіраўнікі сельскіх культурна-асветных устаноў.



**На здымку:** члены камісіі (злева направа) дырэктар Усялюбскай сярэдняй школы рабочай моладзі **А. Несцер**, дырэктар Асмолаўскай сярэдняй школы **А. Драчылоўская**, дырэктар Усялюбскага сельскага Дома культуры **С. Пятрэнка**, старшыня камісіі галоўны ўрач раённай бальніцы **І. Хоміч** і работніца шклозавода «Нёман» **А. Катушонак** слухаюць справаздачу **Г. Журко** аб рабоце Ізвенскай сельскай бібліятэкі.

Фота **А. Перахода.**
Фотахроніка БЕЛТА.

## ЧАС ХВАЛЯВАННЯЎ



**Мікалай КАЗЛОЎСКІ і Вечаслаў САКАЛОЎ сваё жыццё вырашылі прысвяціць мастацтву. Іх мары збываюцца. Яны будуць абараняць дыпломы ў Мінскім мастацкім вучылішчы. Тэма дыпломных работ — «Праца і адпачынак савецкага чалавека».**

**— Дзе будзем працаваць? — М. Казлоўскі нахмурыў бровы, думае. — Многія нашы дыпломнікі выказалі жаданне ехаць працаваць у Цалінны край. Я ведаю, што работы хопіць усім.**

## Падзеі, факты, навіны

● У Брэсцкай вобласці выступае з канцэртамі народны аркестр БССР пад кіраўніцтвам І. Жыновіча.

У Брэсце артысты выступілі з вялікай і разнастайнай праграмай. Канцэрт пачаўся святочнай уверцюрай Я. Глебава. Затым былі выкананы п'еса «У калгасным клубе» П. Падкавырава і вальс з балета «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага.

Паспяхова выступіла салістка Г. Будзько, якая праспявала трэцюю песню Леля з оперы М. Рымскага-Корсакава «Снягурачка», венгерскую песню «Данка» ў апрацоўцы Брамса, украінскую народную песню «Рэвэ та стогне Дніпр шырокій».

Слухачам спадабаліся выступленні артыстаў В. Бурковіча, Ю. Старыковіча, В. Ганчарэнкі.

**Б. ЗІНКЕВІЧ.**

● Тураўская раённая бібліятэка на старонках раённай газеты «Ленінскія запаветы» правяла завочную канферэнцыю чытачоў па раману П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі». У ёй прынялі ўдзел настаўніца Т. Міцура, свінарка Н. Радзіёнава, А. Грынкевіч і інш.

**Я. АЛЬБЕРСАН.**

● Артысты Слуцкага народнага тэатра паказалі на сцэне гарадскога Дома культуры спектакль «Твой светлы шлях» А. Маўзона. Гледачы з прыемнасцю сустрэлі новую пастаноўку. Асабліва добра выканалі ролі артысты народнага тэатра тт. Пальмачынская, Маўчан, Васілевіч.

**А. ДУБІЦКІ.**

● Адбыўся першы выпуск трохгадовага ўніверсітэта мастацкага выхавання пры Гомельскім Палацы культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна. 1300 чалавек розных узростаў і прафесій—рабочыя, служачыя, пенсіянеры і студэнты—на працягу трох год авалодвалі асновамі марксісцка-ленінскай эстэтыкі, вывучалі музыку, мастацтва і літаратуру.

**Р. ЗАЙЦАЎ.**

● Днямі гарадскі пасёлак Хойнікі наведалі артысты Ровенскага абласнога драматычнага тэатра. Яны паказалі камедыю «Дзяўчына з вяснушкамі» А. Успенскага.

**А. БОНДАР.**

## БУДНІ БІБЛІЯТЭКІ

Не так даўно работнікам Іўеўскай раённай бібліятэкі быў уручан дыплом «Лепшая бібліятэка Гродзенскай вобласці». Высокая ацэнка іх работы натхніла прапагандыстаў кніг, і яны з яшчэ большай старраннасцю выконваюць свае абавязкі.

Актывісты — незаменныя памочнікі работнікаў бібліятэкі. Гэта калгаснік Станіслаў Дунай, вучань дзесятага класа Іосіф Трацяковіч, служачы райвыканкома Генадзь Трапынін, работніца аптэкі Ларыса Кляцко, завуч сярэдняй школы Екацярына Самсонаўна Пракаповіч і іншыя. Разам з работнікамі бібліятэкі яны складаюць планы работ і дамагаюцца іх выканання, рыхтуюць і праводзяць канферэнцыі чытачоў, тэматычныя вечары і г. д.

За апошнія месяцы праведзены калектыўныя абмеркаванні кніг Ул. Дадзіёмава «Над Нёманам», Г. Маркава «Соль зямлі», а таксама вечары: «Ленін ва ўспамінах сучаснікаў», «Не праходзьце міма»—супраць гультаёў, п'яніц і хуліганаў. У сельгасарцелі «Шлях Леніна» адбыўся вечар на тэму «За высокія надоі малака».

Умелы выбар тэмы, калектыўная падрыхтоўка ўсіх масавых мерапрыемстваў гарантуе іх ад штампа і суму. Таму і не бывае недахопу ў слухачах, а колькасць аматараў кніг расце.

Бібліятэчныя энтузіясты — частыя госці на прадпрыемствах гарадскога пасёлка. З дваццаці двух работнікаў камбіната бытавога абслугоўвання толькі двое былі чытачамі бібліятэкі. Бібліятэкар Святлана Ларына некалькі разоў пабывала на камбінаце і чытачамі стала больш палавіны рабочых.

Практыкуюць работнікі бібліятэкі і падворныя абходы. Неяк, праглядаючы абанементы, бібліятэкарка Марыя Гуркова звярнула ўвагу, што жыхары Савецкай вуліцы рэдка наведваюць бібліятэку. На наступны ж дзень была адпраўлена спецыяльная «экспедыцыя» на Савецкую вуліцу. У кожным доме віталі прапагандыстаў кніг, выбіралі па густу кнігі, якія ўзялі з сабою бібліятэкары.

— Ці няма ў вас чаго-небудзь па трусагадоўлі? — спытала ў гасцей Ядзвіга Выдронак.—У мяне ёсць трусы, і хацелася б даведацца, як лепш іх гадаваць.

Мустафа Якубоўскі зацікавіўся кніжкай аб вырошчванні памідораў і капусты.

Дзесяткі жыхароў вуліцы Савецкай сталі актыўнымі чытачамі.

На чытачоў з поўнай нагрузкай «працуюць» і выстаўкі, стэнды, плакаты, што арганізуюцца ў бібліятэцы: «Куток канкрэтнай эканомікі сельскай гаспадаркі», «Куток атэіста», «Няхай побач ідуць вучэнне і праца», «Грэчка і мёд— брат і сястра» і інш.

**М. ЧАПРАСАЎ.**

## УШАНАВАННЕ ПЕРАДАВІКА

У калгасе «Запаветы Ільіча» Старобінскага раёна адбыўся вечар ушанавання лепшага кінамеханіка Міхаіла Пракаповіча.

— Стацыянар калгаса «Запаветы Ільіча», — сказаў загадчык раённага аддзела культуры Ул. Кобрын, — сапраўдны маяк культурна-асветнай работы ў вёсцы. План кінаабслугоўвання за чатыры месяцы выканан на 124 працэнты.

Тав. Кобрын уручае Міхаілу Пракаповічу Грамату райвыканкома і вымпел пераможцы. Імя перадавога кінамеханіка занесена ў Кнігу гонару аддзела культуры. Сельскаму стацыянару прысвоена ганаровае званне калектыву камуністычнай працы.

Да XXII з'езда роднай партыі Міхаіл Пракаповіч абавязаўся выканаць гадавое заданне абслугоўвання сельскага гледача.

**Н. СІНЬКЕВІЧ.**



Работнікі Гомельскай абласной бібліятэкі імя Ул. І. Леніна вядуць вялікую работу па прапагандзе беларускай літаратуры. Для гэтага выкарыстоўваюцца разнастайныя формы і метады работы, у тым ліку канферэнцыі чытачоў і вечары. Вядзецца таксама прапаганда праз тэматычныя кніжныя выстаўкі. Асаблівы попыт у чытачоў маюць беларускія часопісы «Маладосць», «Полымя», «Беларусь» і інш. Чытальная зала ніколі не бывае пустой. Тут заўсёды многа маладых чытачоў і сярод іх сяброўкі Надзея Шчарбакова і Аня Несцяровіч.

**На здымку:** работніцы гарпрамгандлю камсамолкі Надзея **Шчарбакова** (злева) і **Аня Несцяровіч** у чытальнай зале абласной бібліятэкі.

Фота **В. Старачанкова.**

# КАБ БЫЛО ПРЫГОЖА І ЗРУЧНА

*Газета «Літаратура і мастацтва» ў нумары 24 за 1961 год змясціла артыкул В. Говара «Прыгледзімся: што нас акружае?». У артыкуле былі ўзняты важныя пытанні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.*

*Друкуючы артыкул І. Паньшынай на гэтую тэму, мы працягваем размову.*

«Мастацтва і быт»... З кожным годам усё больш актуальнымі робяцца гэтыя словы. Павышэнне матэрыяльнага дабрабыту працоўных дае магчымасць зрабіць быт савецкага чалавека прыгожым і добраўпарадкаваным. Узрастаюць эстэтычныя запатрабаванні працоўных, якія чакаюць ад нашай лёгкай прамысловасці зручнай мэблі, прыгожых тканін, зграбных рэчаў хатняга ўжытку. Значна ўзраслі патрабаванні да майстроў прыкладнога мастацтва. Яны працуюць цяпер ужо не над асобнымі выставачнымі творамі, а над стварэннем масавых мастацкіх рэчаў, якія маглі б упрыгожыць жыллё.

Каб стаць масавым, твор прыкладнога мастацтва павінен быць практычным у быце, простым у вытворчасці, прыгожым і недарагім. У большасці сучасныя творы прыкладнога мастацтва вырабляюцца з простых, даступных матэрыялаў: дрэва, шкла, гліны, пластмас і г. д. Для таго, каб вырабы былі простыя ў вытворчасці, формы іх павінны мець строгія абрысы. Напрыклад, у мэблі—гладкая паліраваная паверхня, у рэчах хатняга ўжытку—простыя абцякаемыя формы, якія далі б магчымасць паказаць усе адценні матэрыялу — яго колер, бляск, прыгажосць; у тканіне для адзення і ўпрыгожання інтэр'ера выкарыстоўваецца сціплы, але выразны арнамент.

За апошнія гады мастакі-прыкладнікі Беларусі дасягнулі значных поспехаў, яны сканструявалі цікавыя ўзоры мэблі для кватэр з аднаго і двух пакояў, а мастакі шклозаводаў рэспублікі стварылі многа новых дэсертных сервізаў, ваз пад кветкі і садавіну для сервіроўкі стала і ўпрыгожання інтэр'ера. З некаторымі з іх людзі пазнаёміліся на выстаўках у Доме ўрада і ў Мастацкім музеі. Большасць гэтых твораў атрымала адабрэнне ў гледачоў. Цяпер новыя рэчы быту, створаныя нашай прамысловасцю, дэманструюцца ў Маскве на выстаўцы «Мастацтва—у быт». Асаблівую папулярнасць маюць на ёй творы беларускіх шклозаводаў «Нёман» і барысаўскага імя Дзяржынскага.

Аднак беларускае прыкладное мастацтва ўсё яшчэ адстае ў гэтай галіне ад мастацтва іншых саюзных рэспублік. Па-першае, недастаткова і не да канца выкарыстоўваюцца ўсе магчымасці ў развіцці разнастайных відаў прыкладнога мастацтва рэспублікі.

Адным з асноўных відаў народнага мастацтва ў мінулым і цяпер у Беларусі з'яўляецца ткацтва. Багатыя традыцыі беларускага народнага ткацтва неабходна развіваць і выкарыстоўваць у мастацкай прамысловасці.

Ткацкі цэх Мастацкага фонду БССР вырабляе невялікую колькасць рэчаў, створаных на аснове народнага ткацтва. Недахват неабходнай сыравіны і абсталявання не дае магчымасці наладзіць вытворчасць шматкаляровых посцілак, драпіровак і іншых рэчаў, якія цяпер уваходзяць у быт горада. На іх вялікі попыт. У Беларусі ёсць фабрыка жакардавых тканін, абсталяваная навейшай сучаснай тэхнікай. Вырабы фабрыкі не маюць нацыянальнага беларускага характару, яны безаблічныя. Арнаменты бяруцца з розных крыніц, механічна злучаюцца асобныя элементы ўзору, і рэчы атрымліваюцца неарганічныя, кампілятыўныя. Той жа недахоп і ў прадукцыі буйнейшага на Беларусі Віцебскага дыванавага камбіната, які выпускае выдатныя па якасці дываны. Своеасаблівы стыль віцебскіх дываноў склаўся крыху штучна. Тут можна сустрэць элементы ўзораў каўказскіх паласаў, малдаўскіх і туркменскіх дываноў, якія механічна спалучаюцца з геаметрычным арнаментам беларускіх ручнікоў і кашуль. Народнае мастацтва заўсёды з'яўлялася невычэрпнай крыніцай стварэння нацыянальных па характару рэчаў, але гэта не павінна быць механічным злучэннем розных элементаў арнаменту. У творах народных майстроў заўсёды здзіўляе незвычайнае пачуццё меры, уменне падначаліць элементы арнаменту прызначэнню рэчы. Мэтазгоднасць, строгасць і выразнасць заўсёды былі ўласцівыя народнаму мастацтву. Гэтымі якасцямі павінны вызначацца і сучасныя рэчы быту. Мастакі, якія працуюць у ткацкай прамысловасці, маглі б выкарыстаць дасягненні беларускага народнага ткацтва для стварэння нацыянальных дэкаратыўных тканін і дываноў, тым больш, што драпіроўкі, дываны, посцілкі з простым яркім арнаментам з'яўляюцца неад'емнай часткай сучаснага інтэр'ера.

Вялікі попыт цяпер на вырабы з гліны. У мінулым ганчарства было пашыраным саматужным промыслам Беларусі. Шырокія тэхнічныя магчымасці для вырабу айчыннай керамікі мае Івянецкая фабрыка, а цікавай у мастацкіх адносінах прадукцыі выпускаецца мала. У керамічным цэху Мастацкага фонду БССР створаны сучасныя ўзоры нацыянальнай керамікі, але з-за тэхнічных недахопаў цэх не можа задаволіць цалкам попыт пакупнікоў. Адстае ў вытворчасці айчыннага фаянсу і фарфору Мінскі завод фарфорэфаянсавых вырабаў. Вельмі марудна ўкараняюцца там новыя сучасныя вырабы, створаныя мастакамі фабрыкі.

Другой перашкодай у развіцці прыкладнога мастацтва з'яўляецца невысокая якасць прадукцыі.

Мэблевыя фабрыкі рэспублікі выпусцілі камбінаваныя шафы-стэлажы і кніжныя шафы сучаснай формы. Яны не падабаюцца пакупнікам у большасці з-за нездавальняючай формы — груваст-кія, нязграбныя, дрэнна адпаліраваныя. Першыя ж выставачныя ўзоры былі намнога лепшымі і па прапорцыях, і па якасці. Нярэдка фабрыкі вельмі няўважліва ставяцца да аўтарскай задумы, змяняючы прапорцыі, дэкор, колер рэчы, і лічаць, што ад гэтага яна не зменіцца. Гэта няправільна. Калі мастак працуе над стварэннем хоць бы невялікай шкляной вазы для кветак, яе форму ён заўсёды звязвае з дэкорам і колерам рэчы, у іх адзінстве складваецца пэўны мастацкі вобраз. Калі ж у працэсе вытворчасці парушаецца хоць бы адзін элемент, мяняецца ўся рэч наогул. Так, барысаўскі шклозавод імя Дзяржынскага выпусціў масавым тыражом вазу мастака Антонавай «Танец». У працэсе вытворчасці змены былі быццам і нязначныя, але ваза стала вузейшай. Замест гарызантальных граней паміж танцуючымі фігурамі з'явіліся вертыкальныя галінкі дрэў, і адразу ж парушылася

# ПЯЛЁСТКАВАЯ ЗАМЯЦЬ

З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ ПІСЬМЕННІКА

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

Поезд ішоў з Мінска на поўдзень. Канчаўся красавік, у многіх пачыналіся ўжо водпускі, і ў вагонах толькі і гаворкі было, што аб моры, санаторыях і курортных картках.

У адным купэ сядзелі гарбаносы грузін-маёр, поўная пажылая жанчына з пасярэбранымі сівізной валасамі, дзядок у вялікіх рагавых акулярах (ён ехаў у госці да сына-марака) і маладая дзяўчына з вяснянкамі на твары.

За вокнамі вагона адбягалі назад прасторныя палі з аксамітам зялёнай руні, часам да самага насыпу чыгункі падбягалі кучаравыя дрэвы вербалозу. А то з-за далягляду, быццам магутныя веліканы, паказваліся мачты высакавольтавых электраперадач. На магутных плячах-апорах яны трымалі правады.

Маёр увесь час не адыходзіў ад акна. Ехаў ён аж з Далёкага Усходу ў Харкаў, мясціны гэтыя праязджаў упершыню, і таму ўсё цікавіла, усё было для яго незвычайным.

— Поезд набліжаецца да Гомеля, — аб'явіла правадніца.

І раптам па абодва бакі чыгуначнага насыпу пачаліся сады. Сады і сады. Акуратна пабеленыя дрэвы выступалі роўнымі радамі, як на парадзе, паволі паварочваліся перад пасажырамі і адбягалі назад. А на змену ім выскоквалі новыя дрэвы з прыгожымі кучаравымі кронамі.

— Чые ж гэта сады? — усхапіўся са свайго месца дзядок.

— Нашы, брылёўскія, — усміхнулася дзяўчына і растлумачыла: Брылёўскага гароднінакансервавага камбіната.

— А вы што? Тут жывяце? — пацікавіўся грузін.

— Але ж. Аграномам-садаводам працую.

Маёр і сівая жанчына здзіўлена паглядзелі на дзяўчыну: ну, хто б мог падумаць, што гэтае дзяўчо з вяснушкамі на адкрытым прыемным твары магло быць гаспадыняй такіх вялікіх садоў?

— Вельмі шкадую, што позна з вамі пазнаёміўся, — галантна прыўзняўся са свайго месца маёр. — Гэта ж падумаць толькі: маленькая гаспадыня такіх вялікіх садоў!

А «маленькая гаспадыня» Ніна Лосева трохі засаромелася ад такога параўнання. Праз колькі часу яе суседзі па купэ ўжо ведалі, што Ніна Аляксандраўна была ў Маскве на Усесаюзнай выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР. Адтуль па справах заязджала ў Мінск. І вось вяртаецца дадому.

На выстаўцы брылёўскія сады шырока паказваліся — ім адводзіўся спецыяльны стэнд, і аграном некалькі дзён правяла ў Маскве: дапамагала абсталёўваць той стэнд.

А за вокнамі вагона ўсё праносіліся сады.

— І колькі ж, дачушка, гектараў у вас таго саду? — запыталася жанчына ў Ніны Лосевай.

— Дзвесце пяцьдзесят шэсць гектараў, — адказала дзяўчына, і ёй успомнілася, як упершыню яна цвёрда рашыла прысвяціць сябе садаводству.

Вёска Шарсцін на Веткаўшчыне здаўна славілася садамі. Калі хто пад'язджаў да Шарсціна ў пару цвіцення садоў, дык і стрэх не мог разгледзець здалёку: усё хавалася ў воблаках бялюткіх пялёсткаў. Дыхне ветрык, і пялёсткавая замяць усцеле дол, а на падарожніка павее прыемным водарам квецені.

Але, можа, сапраўднае цвіценне садоў Ніна Аляксандраўна Лосева ўбачыла тут, у Брылёве, калі яна, будучы студэнткай Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, прыехала сюды на практыку.

— Прыязджай пасля вучобы да нас на працу, — гаварыў Ніне Георгій Няфёдавіч Папоў, хударлявы стары, які вырасціў тут не адно дрэва.

«А што ж, — разважала Ніна. — Колькі ператупалі ў гэтым садзе ногі Георгія Няфёдавіча! Колькі начэй недасыпаў ён, каб аберагчы яблыні ад замаразкаў, ад праклятых пладажэрак. Ужо і на пенсію чалавеку час. Змена яму патрэбна...»

У 1958 годзе Ніна закончыла акадэмію і прыехала на працу ў брылёўскія сады. Георгій Няфёдавіч шчыра ўзрадаваўся дзяўчыне. Гады крыху ссутулілі яго постаць, але хадзіў ён усё гэтак жа борзда і нічога не выпускаў з-пад увагі. Нават не верылася, што чалавек гэты калісьці адзінаццацігадовым хлапчуком прапаваў тут, калі брылёўскія сады належалі дванаццаці крывасмокам-багацеям.

— Не бядуй сынок, — гаварыў маленькаму Жору бацька. — Гэтыя паны і падпанкі выведуцца, бы тая паганая тля. А сады працоўным людзям застануцца. Жыццё яны ўпрыгожаць.

Як у люстра глядзеў Жораў бацька. Грымнулі асвяжальныя залпы «Аўроры», і паўцякалі багацеі з Брылёва. А неўзабаве тут вось, дзе раскінуліся сады, саўгас арганізаваўся. І адным з першых садоўнікаў стаў Георгій Няфёдавіч Папоў. З таго часу і не выпускае ён з рук рыдлёўку, нож ды іншае садовае начынне. Не адзін дзесятак гектараў саду сам пасадзіў, выхадзіў, дагледзеў. А яблыням і грушам, якія некалі высаджваў Георгій Няфёдавіч, ужо па 35 год. У поўную сілу ўвабраўся сад, цудоўна пладаносіць...

Часта пастукваюць колы на стыках рэек. Быццам памаладзелы, глядзіць дзядок у акулярах на брылёўскія сады, што праплываюць за вокнамі купэ. З удзячнасцю паглядаюць на Ніну пажылая жанчына і маёр. Поезд спыніўся, і дзяўчына пачала развітвацца са сваімі спадарожнікамі.

— Якая вы малайчына! — не стрымлівае захаплення маёр.

— Ну, што вы, — сарамліва адводзіць вочы Ніна. — Гэта вось ён малайчына, — паказвае яна рукой на Георгія Няфёдавіча Папова, які прыйшоў яе сустракаць.

Цудоўны ён чалавек, Георгій Няфёдавіч. Прыйшоў жа вось сустракаць. І адразу пачаў расказваць Ніне аб садзе, аб тым, што не шкодзіла б яшчэ раздабыць некалькі трактарных апырскવальнікаў без шлангаў — добра яны дзейнічаюць.

Ды хіба адзін Папоў такі? Колькі сіл і працы любімай справе аддалі Раман Паўлавіч Грамыка, Кацярына Папова, рабочыя Алена Гаўрылаўна Крылісценка, Сцепаніда Цітаўна Фіськова! За апошні час брылёўскія сады сталі своеасаблівай лабараторыяй садоўніцтва ў Беларусі. Некалькі год лабараторыя біяметаду пры Навукова-даследчым Інстытуце пладаводства, гароднінцтва і бульбы, што знаходзіцца ў Лошыцы, праводзіць доследы па барацьбе з пладажэркай. На біч пладовых садоў — пладажэрку выпускаецца трыхаграма. Трэба сказаць, што вынікі доследаў аказаліся нечаканымі: пладажэрка знішчаецца вельмі эфектыўна.

Вялікія работы ў брылёўскіх садах праводзіць і Беларускі навукова-даследчы інстытут харчовай прамысловасці. Доследы вядуцца ў напрамку павышэння вітамінознасці дзіцячых кансерваў. Новы гатунак таматаў — гібрыд 116 ужо ўведзен у севазварот.

Кожны дзень у розныя канцы краіны — на далёкую Поўнач, Камчатку, у Варкуту, Данбас, Маскву, Ленінград, Кіеў — адпраўляецца прадукцыя брылёўскіх садоў — звыш 60 гатункаў розных кансерваў. А «салат мінскі», «кабачкі паніраваныя» і «ікру дамашнюю» вырабілі самі брылёўскія майстры. І прадукцыя атрымалася такая — толькі паспявай выпускаць!

Звыш 60 гатункаў адных толькі яблынь налічваецца ў садзе. Ёсць тут бельфлёр-кітайка, пепін шафранны, валожанка, цітаўка, баравінка, кальвіль чырвоны зімовы, курскі залаты ранет. Ёсць нават славутая бэра слуцкая, якая за пасляваенныя гады ў Беларусі пачала выраджацца. Пятнаццаць гектараў занята пад ягаднікі. Плошча гэтая з кожным годам расшыраецца.

У напружанай працы праходзяць дні энтузіястаў брылёўскіх садоў. То праводзіцца пабелка ствалоў дрэў, то другое апырскванне, то рыхтуецца глеба пад так званыя вострыя культуры — пятрушку, сельдэрэй, або праводзіцца кароткачасавое залужэнне садоў.

Аднойчы дырэктар камбіната Васіль Іванавіч Старавойтаў, сустрэўшы Ніну, моцна паціснуў ёй руку:

— Віншую, — сказаў ён. — Камбінат узнагароджан Выстаўкомам Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР Дыпломам другой ступені.

Радасна забілася сэрца дзяўчыны. Яна даведалася, што Малымі сярэбранымі медалямі ўзнагароджвалася яна і Георгій Няфёдавіч Папоў. Бронзавымі медалямі выстаўкі былі ўзнагароджаны дырэктар камбіната і галоўны аграном Барыс Кузьміч Мінін. Рабочыя садовай брыгады Алена Гаўрылаўна Крылісценка была прэміравана гадзіннікам «Зара», а Сцепаніда Цітаўна — пыласосам «Чайка».

У адзін з майскіх дзён зацвілі брылёўскія сады. Тугія бутончыкі распусціліся і здзіўлена глянулі на свет. Пялёсткавая замяць густа ўсыпала галіны. Здавалася, чысцюткі, лёгкі снег пакрыў дрэвы. І што ні дрэва — то белае бязважкае воблачка. Хораша хадзіць па засені яблынь і ігруш, прыемна слухаць дзелавітае гудзенне пчол у густой квецені. Ніна ішла і думала аб сваіх выпадковых спадарожніках у поездзе, аб словах таго маёра, што хваліў яе, успаміналa ўдзячныя позіркі жанчыны. А Георгій Няфёдавіч Папоў, які таксама пераходзіў ад адной яблыні да другой, успамінаў сваё нялёгкае дзяцінства, думаў, што вось і на пенсію час, ды не хочацца развітвацца са сваім даўнім добрым другам-садам. Што ж, ён, Папоў, пакінуў, як кажуць, пасля сябе след: гэтакі сад вырасціў! Няхай радуе людзей, няхай расце на чалавечае шчасце....

І яшчэ думала Ніна Аляксандраўна Лосева, што не так і многа ў іх, на Гомельшчыне, садоў— усяго якіх 24 тысячы гектараў. Трэба, каб іх было больш. У імя гэтага яна будзе працаваць.

Быццам абсыпаныя снегам, цвітуць брылёўскія сады. Ад дрэва да дрэва ціха праходзяць два чалавекі. Георгій Няфёдавіч Папоў часам адшуквае неабрэзаныя галінкі са слабымі почкамі і з дакорам сам сабе ківае галавой. А Ніна ідзе і не ведае, што дома яе чакае пісьмо ад таго чорнага кучаравага маёра. Цяпер ён дэмабілізаваўся. Жыве ў далёкай Грузіі, і ў пісьме просіць прыслаць саджанцаў слуцкай бэры...

---

строгасць і яснасць аўтарскай задумы. Відаць, павысіўся і кошт прадмета.

Нярэдка залежнасць ад прэйскуранта прымушае ў працэсе вытворчасці мяняць першапачатковую задуму. Неабходзен кардынальны перагляд расцэнак, каб можна было выпускаць масавым тыражом творы, якія адпавядаюць усім сучасным запатрабаванням прыкладнога мастацтва. Завод «Нёман» пачаў масавы выраб ваз для кветак мастака Мурахвера. Мастак меў на ўвазе шкло пэўнага колеру, завод жа вырабляе вазу са шкла зусім іншага гатунку, таму якасць вазы значна пагоршылася. А гэта ў нейкай ступені ўплывае на агульную ацэнку і прызнанне новага ў прыкладным мастацтве.

У сучасным інтэр'еры вельмі прыгожа выглядаюць керамічныя вырабы—вазы для кветак, прыборы для вады і малака, настольная скульптура. Керамічны цэх Мастацкага фонду БССР на Рэспубліканскай мастацкай выстаўцы 1960 года паказаў новыя ўзоры, многія з якіх выходзяць цяпер масавым тыражом. Але галоўным недахопам гэтых рэчаў з'яўляецца іх дрэнная якасць, непрыгожае паліва, тоўсты чарапок. Усё гэта зніжае мастацкую вартасць гэтых вырабаў і зводзіць на нішто работу мастака.

Вельмі шкодзяць развіццю прыкладнога мастацтва камерцыйныя адносіны гандлёвых арганізацый да ўсяго новага, што ствараецца цяпер мастацкай прамысловасцю рэспублікі. Яны маглі б аказаць істотную дапамогу ў важнай справе выхавання эстэтычнага густу. Ад гандлёвых арганізацый залежыць у большасці выпадкаў той асартымент бытавых рэчаў, які знаходзіцца ў нашых магазінах, бо яны маюць права свабоднага заказу прамысловасці розных рэчаў масавага ўжытку. Але гандлёвыя работнікі, як правіла, недаверліва ставяцца да ўсяго новага, што ствараюць нашы мастакі. Пакупніку прапануюць устарэлыя рэчы быту. На мастацкіх саветах прадстаўнікі гандлёвых арганізацый гавораць: «Гэта не пойдзе», або «Прымайце, але мы браць гэтага не будзем», таму што пакупніку такія рэчы, быццам, не падабаюцца. Між тым на выстаўках прыкладнога мастацтва ў кнігах водгукаў цэлыя старонкі запоўнены просьбамі, каб мастацкія вырабы хутчэй з'явіліся ў продажы.

У некаторых гарадах нашай краіны — Маскве, Кіеве, Каўнасе, Вільнюсе ёсць спецыялізаваныя магазіны, дзе прадаюцца сучасныя рэчы быту. Арганізаваны гэтыя магазіны па-рознаму. У Кіеве, у цэнтры горада, ёсць салон-магазін, у якім выстаўлены ўзоры вырабаў фарфоравых і керамічных фабрык Украіны. Там пакупнікі могуць заказваць рэч, якая ім падабаецца, і на працягу аднаго— двух месяцаў заказ выконваецца. У Каўнасе ёсць магазін, дзе можна набыць усё неабходнае, пачынаючы ад мэблі і канчаючы дэкаратыўнымі тканінамі і вазамі. У прадаўца пакупнік можа атрымаць кваліфікаваную кансультацыю, што больш падыходзіць да інтэр'ера. Такія магазіны становяцца своеасаблівымі асяродкамі выхавання эстэтычнага густу. Апрача таго, адразу відаць, што карыстаецца поспехам, а што трэба адхіліць. Паміж прамысловымі прадпрыемствамі развіваецца спаборніцтва за павышэнне мастацкай і тэхнічнай якасці рэчаў.

Такі магазін можна арганізаваць і ў Мінску, і гандлёвыя арганізацыі здолеюць цалкам спыніць пранікненне ў гандлёвую сетку безгустоўных, антымастацкіх рэчаў, разлічаных на нізкапробны мяшчанскі густ.

Такія, на наш погляд, некаторыя прычыны, якія стрымліваюць развіццё беларускага прыкладнога мастацтва. Ліквідацыя іх можа зрабіць мастацтва здабыткам працоўных, ажыццявіць патрабаванне: «Мастацтва—у быт».

**І. ПАНЬШЫНА.**

---

# Мастацтва вялікага Кітая

Выстаўка «Прыкладное мастацтва Кітая», што адкрылася ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, з'яўляецца важнай падзеяй у культурным жыцці Мінска. Больш як шэсцьсот твораў на гэтай выстаўцы. Яны даюць магчымасць азнаёміцца з асноўнымі відамі прыкладнога мастацтва як у старым, так і новым Кітаі.

Важнейшай галіной мастацкага рамяства ў Кітаі XV—III стагоддзяў да нашай эры была вытворчасць старажытных рытуальных пасудзін. Адлітыя пры дапамозе гліняных форм, гэтыя пасудзіны ўпрыгожваліся страшнымі жывёльнымі маскамі і складаным арнаментам жывёльнага і геаметрычнага паходжання. Яны служылі для прынашэння ахвяр продкам, культ якіх складаў аснову старажытнакітайскіх рэлігійных вераванняў. Формы старажытнейшых бронзавых пасудзін, такіх, як трыножнік-дзін, кубак-гу і г. д., існавалі ў Кітаі многа стагоддзяў.

Вельмі цікавая вітрына, якая паказвае гісторыю грашовага абарачэння ў Кітаі. У ёй паказаны грошы, пачынаючы ад старажытнейшых манет VII—V стагоддзяў да нашай эры ў выглядзе нажоў, музычных пласцінак і г. д. аж да папяровых асігнацый пачатку XX стагоддзя.

У XIII стагоддзі ў Кітай пранікае новая галіна мастацкага рамяства — вытворчасць перагародчатай эмалі. Для яе характэрны разнастайнасць і прыгажосць форм, багатае спалучэнне розных эмалевых фарбаў.

Керамічнае мастацтва Кітая прайшло доўгі шлях развіцця ад неалітычнай керамікі да шэдэўраў з фарфору, і ў ім найбольш поўна паказаны творчы геній народа. Да старажытнейшых вырабаў з керамікі, прадстаўленых на выстаўцы, адносяцца статуэткі VII—IX стагоддзяў нашай эры, якія клаліся ў магілу разам з нябожчыкам. Гэтыя фігуркі даюць уяўленне аб народнай творчасці таго часу, характэрнай праўдзівым адлюстраваннем рэчаіснасці.



*ДЭН ШУ. З серыі работ «Абараняем мір».*

На выстаўцы ў Мінску прадстаўлены і тыпы фарфоравых вырабаў. Неабходна ўпамянуць манахромы колеру слановай касці, блакітнаватага, ружовага, жоўтага колераў, пасудзіны колеру «бычачай крыві», а таксама вырабы «луньцюаньяо» — селадоны з зеленаватым глазурам, якія нагадваюць па колеру нефрыт. Гэтыя сасуды часта аздабляліся падглазурным рэльефным арнаментам або цэкам. Асобную групу складае фарфор з падглазурнай сіняй кобальтавай фарбай з паказам кветак, жывёлы і складаных фігурных кампазіцый. Для ўзмацнення дэкаратыўнага эфекту кобальтавыя вырабы часта распісваліся золатам.

У XVII—XVIII стагоддзях узмацніліся сувязі паміж Кітаем і Еўропай. Аб гэтым сведчаць расфісаная так званая «кантонская» эмаль і «остіндскі» фарфор, выраблены ў Кітаі спецыяльна для экспарту ў Еўропу і Расію. Сярод выстаўленых рэчаў заслугоўвае асаблівай увагі адзін экспанат — аптэкарскі слоік з рускім гербам, выраблены ў Кітаі па заказу Пятра І.

Выключнай дасканаласці кітайскія майстры дасягнулі ў разьбе па слановай касці. Досыць цікавыя экспанаваныя на выстаўцы так званыя «д'ябальскія шары», 



*Сабака-леў. Архітэктурная дэталь.*

Такія шары, змешчаныя адзін у адзін, выразаюцца з цэлага кавалка слановай касці, прычым кожны шар упрыгожан уласным арнаментам.

На выстаўцы прадстаўлены і вырабы з шоўку: вышыўка, шырма, пано, касцюмы.

Заключны раздзел выстаўкі прысвечан мастацтву народнага Кітая. Вялікія поспехі кітайскага народа, дасягнутыя пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў будаўніцтве сацыялізма, знайшлі сваё адлюстраванне ў работах мастакоў. Прысланыя нам урадам Кітайскай Народнай Рэспублікай вырабы з фарфору, распісной і перагародчатай эмалі, лаку і касці ярка сведчаць аб удасканаленні і далейшым развіцці традыцыйных галін прыкладнога мастацтва Кітая.

**Е. ЛУБО-ЛЕСНІЧЭНКА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага Эрмітажа.**

---

## Падзеі. Факты. Навіны

● Кожную раніцу ў нядзелю калгаснікі сельгасарцелі «40 год Кастрычніка» Лунінецкага раёна ўважліва слухаюць сваю радыёгазету. Дыктар расказвае пра навіны тыдня калгаснага жыцця. У апошні час перад мікрафонам сталі выступаць перадавікі сельскай гаспадаркі, яны дзеляцца вопытам сваёй працы. Рэдагуе газету загадчык Мокраўскай сельскай бібліятэкі Іван Кацуба.

**В. ШТАЛЬ.**

● Лепшай кнігарняй у Гомельскай вобласці з'яўляецца Добрушская. З месяца ў месяц яна перавыконвае планы продажу кніг. Пры магазіне працуе савет садзеяння распаўсюджванню літаратуры, які ўзначальвае рабочы камбіната «Герой працы» Сцяпан Усянкоў. Вялікую дапамогу аказваюць магазіну кніганошы—ударнік камуністычнай працы Мікалай Васількоў, Ніна Лосева, Марыя Агіенка і іншыя. Калектыў магазіна вырашыў да XXII з'езда партыі выканаць гадавы план продажу кніг.

**А. КУРЛОВІЧ.**

● Члены савета Рубельскага сельскага клуба Столінскага раёна за апошні час больш сталі надаваць увагі свайму асяродку культуры. Актыўны ўдзел у рабоце клуба прымаюць настаўнікі М. Раманоўскі, В. Уласенка, калгасніца Л. Вабішчава. Цікава прайшоў у клубе вечар на тэму: «Аб маральным абліччы маладога савецкага чалавека».

**А. БРУШЦЕН.**

У госці да віцьблян прыязджаў пісьменнік Рыгор Набатаў. У гарадскім Доме культуры адбылася сустрэча пісьменніка са сваімі землякамі. Абласная бібліятэка імя Ул. І. Леніна арганізавала канферэнцыю чытачоў па кнізе «Юныя мсціўцы» Р. Набатава. У канферэнцыі прыняў удзел аўтар.

**П. БАРАНОЎСКІ.**

---

# АДЗІН З ПЛЕЯДЫ ФАЛЬКЛАРЫСТАЎ

Мала хто ведае, што велічны помнік у гонар выдатнай перамогі над шведамі рускіх войск на чале з Пятром Вялікім пры вёсцы Лясной быў пастаўлены, дзякуючы настойлівым хадайніцтвам перад царскім урадам беларускага этнографа і фалькларыста Еўдакіма Раманавіча Раманава. У час адной з экспедыцый вучоны наведаў месца бітвы. Пазней ён высветліў, што храм-помнік у гонар знамянальнай перамогі, пабудаваны Пятром у вёсцы Лясной, быў праз некалькі год перавезены памешчыкам Валкавіцкім у свой маёнтак і ператвораны там у фамільны склеп. Дзесяць год Раманаў хадайнічаў перад Аляксандрам III аб закладцы новага або перанясенні старога храма-помніка. Але толькі ў 1906 г. гэтыя хадайніцтвы далі вынікі. Камісію па перанясенню храма даручана было ўзначальваць Раманаву.

Гэта толькі адзін з эпізодаў жыцця выдатнага сына беларускага народа. А колькі яшчэ помнікаў, музеяў, унікальных калекцый, капітальных этнаграфічных прац звязана з яго імем!.. Яго справы вядомыя далёка за межамі нашай рэспублікі. Але да нядаўняга часу, акрамя невялікіх артыкулаў, мы не мелі кнігі пра яго жыццё і дзейнасць. Таму з цікавасцю бярэш у рукі кніжку пра выдатнага беларускага вучонага Раманава, выдадзеную Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Гэтая кніжка — грунтоўны навукова-папулярны нарыс, напісаны В. Бандарчыкам на аснове вывучэння на працягу некалькіх год матэрыялаў пра беларускага этнографа і фалькларыста ў архівах і музеях Масквы, Ленінграда, Вільнюса і многіх іншых гарадоў нашай краіны. *)

У пачатку кнігі аўтар дае сціслы агляд беларускай этнаграфічнай навукі ў другой палавіне XIX — пачатку XX стагоддзяў, разглядае збіральніцкую і навуковую дзейнасць А. Кіркора, П. Шпілеўскага, І. Насовіча, П. Шэйна, М. Нікіфароўскага, У. Дабравольскага, Я. Карскага і іншых.

Даючы характарыстыку дзейнасці таго ці іншага фалькларыста ці этнографа, даследчык выказвае свае адносіны да яе. Напрыклад, у асноўным станоўча адзначаючы працы П. Шэйна, В. Бандарчык паказвае і іх істотныя недахопы: шэраг няўдалых работ, якія скажона адлюстроўваюць жыццё і быт народа. Гэта здарылася таму, што П. Шэйн не зусім дасканала ведаў быт і культуру народа, а таксама не быў знаёмы з працамі выдатных рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў у галіне этнаграфіі і фальклору.

Уступны раздзел нарыса, які з'яўляецца своеасаблівай экспазіцыяй да разгляду жыцця і дзейнасці Е. Раманава, напісаны ў цэлым з веданнем справы.

Шлях Е. Раманава ў навуку быў нялёгкім. Круглы сірата, без сродкаў на жыццё, ён настойліва вучыўся, каб здаць экзамены на званне настаўніка народнай школы. А потым, ведучы паўгалоднае існаванне, Раманаў на апошнія свае грошы падрыхтоўвае і выдае этнаграфічныя зборнікі, купляе экспанаты для шматлікіх калекцый. Каштоўныя выпускі «Беларускага зборніка», арыгінальныя працы па фальклору, гісторыі, мове, археалогіі, медыцыне, унікальныя калекцыі прадметаў старажытнасці ў Эрмітажы, музеях Беларусі і Літвы — усё гэта вынікі дзейнасці Е. Раманава. Ён вельмі любіў свой народ і ў многіх работах палымяна адстойваў яго ад нападак ворагаў, якія «аблівалі памыямі беларуса», «таптлі яго ў гразь».

Пра ўсё гэта цікава і пераканаўча расказана ў кнізе. У той жа час В. Бандарчык не імкнецца замазваць супярэчнасці і памылкі ў поглядах таленавітага этнографа-самавука.

Аўтар пераканаўча паказвае, што, нягледзячы на перашкоды царскага самадзяржаўя, працы Е. Раманава ўбачылі свет, дзякуючы падтрымцы вядомых рускіх вучоных А. Весялоўскага і А. Шахматава, якія маральна і матэрыяльна дапамаглі беларускаму этнографу.

Даследчык рашуча абараняе Е. Раманава ад нападак буржуазных вучоных тыпу прафесара М. Сумцова, які, адзначаючы некаторыя вартасці выпускаў беларускага этнографа, у цэлым пагардліва ставіўся да дзейнасці Е. Раманава на той падставе, што ён (г. зн. Раманаў) не атрымаў спецыяльнай адукацыі і нават не скончыў гімназіі.

Яшчэ Чарнышэўскі папярэджваў некаторых занадта ганарлівых і заўзятых вучоных супраць фанабэрыстага стаўлення да тых, «хто, не атрымаўшы спецыяльна філалагічнай адукацыі, працаваў з такой шчырасцю, якую рэдка можна знайсці і ў спецыяльных вучоных». Чарнышэўскі далей адзначаў, што такія самародкі-фалькларысты «зрабілі больш паслуг па вывучэнню рускай народнасці, чым людзі, якія пагардліва трактуюць аб іх».

Менавіта такім выдатным самародкам-фалькларыстам і быў Е. Раманаў.

Ёсць у кнізе В. Бандарчыка і недакладнасці. Напрыклад, на стар. 76 паведамляецца, што «першы выпуск першага тома «Беларускага зборніка» ў рукапісу быў высланы Раманавым у Аддзяленне рускай мовы і славеснасці ў 1884 годзе з просьбай выдаць яго або аказаць матэрыяльную дапамогу для выдання сваімі сіламі». А на стар. 83 аўтар даводзіць, што «адзін экземпляр надрукаванага першага выпуску «Беларускага зборніка» яшчэ без вокладкі быў высланы ў Аддзяленне рускай мовы».

Даследчык правільна сцвярджае, што да Е. Раманава беларуская народная казка была амаль невядома. Аднак, указваючы на казкі, якія былі ў друку, гаворыць, што ў зборніку М. Дзмітрыева іх было 9, у зборніку П. Шэйна—4. Між тым у зборніку А. Афанасьева было таксама змешчана 9 беларускіх казак, якія дарэчы, перадрукаваў М. Дзмітрыеў. Аб гэтым аўтар чамусьці нічога не сказаў.

У кнізе некалькі разоў гаворыцца аб III выпуску Е. Раманава і ўказваецца, што ў гэтым зборніку 141 казка (стар. 88), а на стар. 224 сцвярджаецца, што Е. Раманаў уключыў 192 тэксты казак і блізкіх да іх жанраў. На самой жа справе ў III выпуску змешчана 151 казка.

У кнізе ёсць шэраг моўных агрэхаў, няўдалых сказаў.

Даследаванне пра беларускага этнографа і фалькларыста значна выйграла б, калі б аўтар паказаў на прыкладах, як шматлікія матэрыялы Е. Раманава з'явіліся выдатнай глебай для твораў пісменнікаў, паэтаў, кампазітараў, даследчыкаў фальклору.

Выдавецтва чамусьці выпусціла кніжку нязначным тыражом — 1.200 экземпляраў. Гэта тым больш дзіўна, што попыт на такую літаратуру ёсць. Так, напрыклад, кніжку аб паплечніку Е. Раманава М. Нікіфароўскім, якая выйшла ў пачатку гэтага года значна большым тыражом, даўно ўжо ў кнігарнях Мінска нельга знайсці.

**І. РАЗАНАЎ.**

*) **В. К. Бандарчык.** Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мінск. 1961.

---

## ЧАС ХВАЛЯВАННЯЎ



— Так, я крыху стамілася... — студэнтка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Цалесціна БРАЖНІК ветліва ўсміхаецца. — Чатыры гады напружанай працы. Але я адчуваю сябе шчаслівай: чатыры курсы — за плячыма...

---

## Для працоўных Гомельшчыны

Канцэртна-лекцыйнае бюро Беларускай дзяржаўнай філармоніі накіравала брыгаду для правядзення музычных лекцый-канцэртаў у раённых цэнтрах, калгасных і саўгасных дамах культуры Гомельшчыны.

У складзе брыгады — спевакі Я. Цвятаева, М. Пушкароў, Д. Зубрыч, піяністка Г. Стэрліна, музыказнаўцы І. Зубрыч, Л. Аўэрбах.

Для слухачоў універсітэтаў культуры, рабочых і калгаснікаў вобласці наладжваюцца лекцыі-канцэрты на тэмы: «Як навучыцца разумець музыку», «Аб добрым і дрэнным музычным гусце», «Савецкая песня і музыка кіно», «Шляхі развіцця беларускай музыкі», «Што такое опера?».

Рад лекцый-канцэртаў прысвечаны творчасці Глінкі, Чайкоўскага і іншых рускіх кампазітараў.

Усяго будзе наладжана каля 60 лекцый-канцэртаў.

---

# ФІЛЬМЫ ПРА БАРАЦЬБУ НАРОДАЎ ЗА МІР

Нарада прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый, якая адбылася ў лістападзе 1960 года ў Маскве, увойдзе ў гісторыю сусветнага камуністычнага і рабочага руху, як адна з самых яркіх яго старонак. З мэтай шырокай прапаганды гэтага гістарычнага дакумента Міністэрства культуры БССР, Беларускі рэспубліканскі Савет прафсаюзаў і Беларускае рэспубліканскае Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў праводзяць у чэрвені г. д. ва ўсіх кінатэатрах, у калгасах, цэхах фабрык і заводаў паказ кінафільмаў на тэму: «Народы свету ў барацьбе за мір і знішчэнне каланіяльнага рабства».

Шмат цікавага раскажуць беларускім гледачам кінакарціны «Аўстрыя сустракае пасланца міру», «М. С. Хрушчоў у Інданезіі», «М. С. Хрушчоў у Амерыцы», «Па шляху мірнага супрацоўніцтва», «Дружба і братэрства вялікіх народаў», «Няхай жыве мір», «Сцягі над Ганай», «Наш сябар Інданезія» і інш.

Пра ажыццяўленне закона аб значным скарачэнні Узброеных Сіл СССР, прынятага на IV сесіі Вярхоўнага Савета СССР, гледачы даведаюцца з хранікальна-дакументальнага кінафільма «Дывізіі ідуць на фронт сямігодкі».

Рабоце Першай савецкай канферэнцыі салідарнасці народаў Азіі і Афрыкі, якая адбылася ў кастрычніку 1960 года ў г. Сталінабадзе, прысвечан новы каляровы дакументальны фільм «Салідарнасць».

Поўнаметражная хранікальна-дакументальная кінакарціна «Заўсёды з народам» раскажа пра нястомную дзейнасць на карысць народа вернага сына Камуністычнай партыі Мікіты Сяргеевіча Хрушчова.

З вялікай цікавасцю будуць прагледжаны кінафільмы «Розум супраць вар'яцтва», «Сталь дружбы», «Раззбраенне — шлях да міру», «Віва Куба», «Мацнее савецка-гвінейская дружба», «Самалі— незалежная рэспубліка», «Непарушная савецка-албанская дружба» і інш.

У дні паказу перад гледачамі будуць выступаць лектары Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў, вучоныя, дзеячы культуры.

